

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 9(68) Верасень 1999 September Год выд. 7.


**У пятніцу, 27-га жніўня 1999 г., а 14-й гадзіне ў віленскім цэнтры Таварыства Беларускае Культуры абвешчаны і публічна падпісаны Зварот да народу Беларусі, усіх беларусаў сьвету, парлямэнтаў, урадаў дэмакратычных краінаў...**

**Дакумант, які ў прысутнасьці старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі 13 скліканьня Сямёна Шарэцкага і трох дэпутатаў Сойму Летувы і навідавоку шматлікіх карэспандэнтаў, тэле- і радыёжурналістаў падпісалі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі 12 скліканьня Станіслаў Шушкевіч і прэзыдэнт Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Радзім Гарэцкі, нагадвае, што 20 ліпеня сёлета скончыўся тэрмін паўнамоцтваў прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, нелегітымнымі сталі і ўсе прызначаныя ім уладныя структуры.**

Згодна з артыкулам 105 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь да прыняцьця прысягі новаабраным прэзыдэнтам паўнамоцтвы кіраўніка краіны перайшлі да старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага, а абавязкі старшыні ВС — да ягонага першага намесьніка Віктара Ганчара. Паводле дакуманта, у бліжэйшыя дні мусіць быць сфармаваны новы ўрад. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь павінны адбыцца выбары прэзыдэнта, але Лукашэнка і створаны ім рэжым, — адзначаецца далей у прынятым звароце, — выкарыстоўваючы антыканстытуцыйныя мэтады, працягваюць утрымліваць уладу. Больш таго, яны і далей прадпрымаюць намаганьні ў аб'яднаньні Беларусі з Расеяй у адну дзяржаву, прэзыдэнтам якой марыць стаць А. Лукашэнка. Нажаль, ва ўсім гэтым іх падтрымліваюць многія расейскія палітыкі, якія жадаюць аднаўленьня імпэрыі. Мы зьвяртаемся да народу Рэспублікі Беларусь і ўсіх беларусаў сьвету, — гавораць падпісанты Звароту, — з заклікам спрыяць станаўленьню ў Беларусі канстытуцыйнае ўлады, усталяваньня незалежнае дэмакратычнае праўнае дзяржавы. Мы зьвяртаемся да парлямэнтаў і ўрадаў дэмакратычных дзяржаваў з заклікам не прызнаваць узурпатара і ўтвораныя ім у Беларусі антыканстытуцыйныя структуры, спрыяць імкненьню беларускага народу да незалежнасьці, падтрымаць права беларусаў вызначыць свой лёс праз дэмакратычна абраную ўладу.

Камэнтуючы прыняты дакумант, старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі 12 скліканьня Станіслаў Шушкевіч сказаў, што галоўны вынік, да якога прыйшлі ў апошні час сябры апазыцыі — гэта яе адзінства. Стаўка ўлады Лукашэнкі на яе раскол не ўдалася. Станіслаў Шушкевіч нагадаў, што надоечы 9 палітычных партыяў Беларусі перадалі паўнамоцтвы на вядзеньне перамоваў і фармаваньне павесткі дня гэтых перамоваў Вярхоўнаму Савету Беларусі 13-га скліканьня.

Што датычыць адміністрацыі Лукашэнкі, то яна імкнецца падзяліць апазыцыю на так званую "канструктыўную" і "неканструктыўную". Замест перамоваў з палітычнымі партыямі яна намерана, прыкладна, перамаўляцца з арганіцыямі "аўганцаў" і іншых сваіх куміраў.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла гэты Зварот ацаніла так: Я ўважаю, што гэта можна назваць гістарычнай падзеяй, бо сабраліся ўсе разам — усе сілы апазыцыі супраць цяперашняга рэжыму ў Беларусі, уключна з Радаю БНР, якая першы раз зьяўляецца на такім паседжаньні. Я вельмі задаволена, што сюды прыехала. Я ўважаю, што Шарэцкі робіць цяпер вельмі пазытыўную працу. І я спадзяюся, што беларускі народ падтрымае нашую дзейнасьць, і што мы дойдзем да рэзультатаў.

І нарэшце экспрэс-камэнтар Сямёна Шарэцкага: — Калі карэспандэнт запытаў, ці можна трактаваць гэтую падтрымку Вас, вашага Вярхоўнага Савету, шырокай апазыцыі так, што Вы паспрабуеце з юрыдычна моцных пазыцыяў размаўляць з Лукашэнкам, спадар Шарэцкі адказаў: Так. Канешне, і я вам скажу — гэта вельмі важны крок у справе падтрыманьня нашага адзінства.

Дэпутат Сойму Лутувы, хрысьціянскі дэмакрат Ігнацасуш Давініс у сваім выступе-пажаданьні параіў беларускім калегам-парлямэнтарыям крок за крокам ажыцьцяўляць тактыку на аднаўленьне канстытуцыйнасьці ў Беларусі, на яе незалежнасьць і паабяцаў салідарнасьць з боку аднадумцаў у Сойме Летувы. Сябра Сойму ад партыі Маладая Летува і яшчэ адзін кансэрватар цікавіліся дэталямі палітычнае сытуацыі ў Беларусі.

Цікавасьць летувіскае прэсы да гэтае падзеі, бадай, ня мае аналягаў...

Паводле "РС".



Спадар Сямён ШАРЭЦКІ



## Малітва за беларускую мову

О, усемагутны Божа, уладар неба і зямлі!

З дзіцячым даверам маім Цябе прашу: не пакідай нас і заставайся з намі. Выслухай жа нашыя малітвы: няхай людзі, расплюшчыўшы вочы, ўбачаць, на якой цудоўнай зямлі яны жывуць, і пачуюць, на якой мілагучнай мове яны могуць размаўляць. Бацька наш, Ты ўвесь свет стварыў і Духам Святым усё прасвяціў, ажывіў і ўпрыгожыў. Просім Цябе: надзялі ўсіх нас сілаю, бязмежным даверам, ахвярнаю шчырай любоўю да Бацькаўшчыны, дзе мы нарадзіліся, да той мовы, якая засталася нам у спадчыну ад нашых продкаў-беларусаў.

Мы, дзеці беларускага народа, імкнемся сумленна выконваць волю Тваю і запаветы Твае. У шчырай пакоры просім Цябе: злітуйся над тымі, хто адрокся ад сваёй мовы, даруй ім грахі, бо ці ёсць большы грэх, чым адрачэнне ад продкаў сваіх, ад каранёў, што жыццё нам далі. Прасвятлі, Госпадзі, іх розум, здымі чорную смугу з вачэй іхных. Хай успомняць адкуль яны, хто яны, хай не цураюцца сваёй мовы, сваёй радзімы. Божа міласэрдны, злітуйся над тымі, хто зневажае нашу мову, наш народ, нашу гісторыю, не карай іх жорстка, бо не ведаюць яны, што твораць.

Прашу Цябе, Святы Уладыка, пашлі нашаму народу еднасць, згоду і паразуменне нашым людзям у дачыненні да сваёй Радзімы Беларусі.

Ухвалі, Ойча, працу настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных і ўсіх іншых патрыётаў-беларусаў на карысць Адраджэння мовы нашай беларускай.

О, наймагутны Божа, зрабі так, каб мы, дзеці Беларусі, ніколі не пакідалі нашай беларускай мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе. А таксама не пакінь, Божа, тых, хто смуткуе і тужыць на сваёй Радзіме, і асабліва тых, хто паддаўся спакусам, што адводзяць ад веры ў Беларусь. Пашлі беларускаму народу сваіх служак, якія набожным жыццём вялі б наш люд да лепшае долі, да свядомага служэння Айчыне. Пачуй, Божа, малітву маю і зрабі тое, пра што прашу! Амін.

(Заяц Марыя, вучаніца 9 класа СШ № 169 г. Менска)






**Паважаныя чытачы!** "Беларускаму Дайджэсту" патрэбная грашовая дапамога. Не забывайце пераслаць ахвяру на выдавецкі фонд нашае газэты. Прыяднoўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Юры Хадыка:

## Лукашэнка можа стаць Ярузельскім, а Пазьняк — прадстаўніком за мяжой...

Апазыцыя рыхтуецца да прапанаванага ўладамі перамоўнага працэсу. Галоўная мэта перамоваў — мірны пераход улады да легітымнага воргану, які-б прызнаваўся ўласным народам і міжнароднай супольнасьцю. З чым ідзе на перамовы кансалідаваная апазыцыя, у чым яна гатовая саступіць Лукашэнку, а на чым прынцыпова настойваць, якім бачыцца апазыцыі мэханізм перадачы ўлады — адказвае намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка.

**«НН»: Апазыцыя ідзе на перамовы з Лукашэнкам. Лукашэнка ня раз заяўляў, што заклікае да дыялёгу. Чым адрозьніваецца, з Вашага пункту погляду, перамовы і дыялёг?**

*Юры Хадыка:* Мы тут зьбіраліся за «круглым сталом» на запашэньне Інстытуту палітычных дасьледаваньняў пры прэзыдэнце. Вось гэта тыповы прыклад дыялёгу. Яны паслухалі, што сказалі мы з Валерам Карбалевічам, мы, у сваю чаргу, паслухалі, што сказалі некалькі намесьнікаў міністраў. Зразумела, што нават у дыялёгу ёсьць карысьць, але невялікая — гэта проста высьвятленьне пазыцыяў, дзе могуць быць пункты збліжэньня. А перамовы — гэта зусім іншае. Перамовы павінны мець абсалютна ясна вызначаную мэту, і, у першую чаргу, з боку апазыцыі. Мэта перамоваў з нашага боку — якраз і ліквідаваць сытуацыю канфрантацыі, прыйсьці да нейкага варыянту грамадзянскага пагадненьня, якое павінна быць вырашана сувэрэнам краіны — народам. У гэтым ёсьць ясная мэта апазыцыі ў працэсе перамоваў. Гэты працэс будзе жорсткім і дастаткова працяглым.

**«НН»: Што можа быць прадметам перамоваў, а ў чым апазыцыя не павінна ісьці на саступкі?**

*Юры Хадыка:* Прадмет перамоваў — выбары. На працягу перамоваў павінны быць вырашаныя такія праблемы — у які ворган яны адбудуцца, я хачу сказаць, што вялікая саступка апазыцыі ў тым, што гэта можа быць не Вярхоўны Савет. Але гэта ня можа быць і Нацыянальны сход, бо ён наагул фантастычная структура без найменшых прыкметаў легітымнасьці. Таму гаворка будзе ісьці аб нейкім варыянце парляманту, які будзе мець больш шырокія паўнамоцтвы, чым цяпер мае Палата прадстаўнікоў. Ня выключана, што трэба спачатку выбраць кароткатэрміновы парлямэнт або канстытуцыйны сход, мэта якога — удакладніць Канстытуцыю, зрабіць з яе дакумант, які-б задавальняў і грамадства, і міжнародную супольнасьць, бо Лукашэнкава канстытуцыя з дапаўненьнямі не вытрымлівае ніякай крытыкі, яна ня можа быць грунтам нават для мадэрнізацыі. І другое пытаньне — ужо сам працэс правядзеньня выбараў у такі парлямэт альбо ў такі канстытуцыйны сход. Трэба стварыць умовы для свабодных выбараў. Гэта ня толькі закон аб выбарах, асноўныя парамэтры якога павінны таксама быць абмеркаваныя і ўзгодненыя, але і працэдура падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў. Гэта свабодныя сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку дзяржаўныя, бо наша грамадзтва — як прыхільнікі сп. Лукашэнкі, так і ягоныя апанэнты — плацяць падаткі, на якія існуюць СМІ. Гэта спыненьне палітычных рэпрэсіяў, вызваленьне людзей, якія аказаліся за кратамі толькі таму, што яны занялі антыпрэзыдэнцкую палітычную пазыцыю. Яшчэ адна ўмова, якая не знайшла свайго месца ў Мэмарандуме, падпісаным палітычнымі партыямі, але якая будзе абараняцца БНФ, — несумяшчаньне выбараў у заканадаўчы ворган з якімі іншымі рэфэрэндумамі, народнымі галасаваньнямі і г. д. — бо такая працэдура, з чым мы сутыкнуліся ўжо двойчы, стварае несымэтрычную сытуацыю, даючы ў рукі ўлады вялізныя казыры. І таму гэта павінна быць выключана. І нарэшце, стварэньне выбарчых камісіяў, у якіх былі-б прадстаўленыя апазыцыйныя сілы...

**«НН»: У якім статусе, як Вы лічыце, ідзе на перамовы Лукашэнка і ці ня зьменіцца ягоны статус, калі, раптам Сямён Шарэцкі падпіша ўказ аб узяцьці на сябе прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў?**

*Юры Хадыка:* Важна, што Лукашэнка і сёньня — грамадзянін, які ў лепшым выпадку зьяўляецца в.а. Прэзыдэнта. І тут ня можа быць ніякіх недагаворак, бо паводле Канстытуцыі 1994 году, якая ў нас ёсьць адзіным легітымным законам, ягоныя паўнамоцтвы скончыліся. Ня хочацца нават вяртацца да гэтых сьмешных працэдураў падаўжэньня паўнамоцтваў. Ён проста зьяўляецца першай асобай існага рэжыму, і ад пазыцыі гэтай асобы залежыць посьпех негвалтоўнага, канстытуцыйнага выйсьця з гэтага тупіку. Перамовы ёсьць адзінай магчымасьцю захаваньня хоць якога сацыяльнага міру, і калі Лукашэнка з-за свайго характару сарве іх, гэта толькі падвядзе нас да мяжы сацыяльнага выбуху. Бо з фінансамі ў нас дрэнна, з сельскай гаспадаркай — дрэнна, з запускам заводаў — дрэнна. У нас вельмі небясьпечная сытуацыя, і палепшыць яе можна толькі ў адным выпадку — адмовіўшыся ад прымусовага стылю кіраваньня, які вызнае Лукашэнка як адзіна магчымы, пачаць нармальныя дэмакратычныя рэформы — даць волю прадпрымальнікам, сельскай гаспадарцы, наладзіць нармальную фінансава-крэдытную сыстэму, аднавіць дзелавыя сувязі з Захадам, атрымаць адтуль тэрміновую фінансавую дапамогу. Перамовы — і лепшае пэрсанальнае выйсьце для Лукашэнкі, бо толькі шляхам перамоваў ён можа атрымаць сабе статус, аналягічны статусу недатыкальнасьці гэнерала Ярузельскага ў Польшчы. У іншым-жа выпадку ён ня выкруціцца ад крымінальнай адказнасьці...

**«НН»: Зьвернемся да сытуацыі ўнутры Вашай партыі і руху — БНФ. Што чуваць з-за мяжы ад З. Пазьняка, ці згодны ён пайсьці на кампраміс?**

*Юры Хадыка:* Апошні ліст Пазьняка, які я чытаў, быў датаваны 8 жніўня. Я нядумаў, што Зянон пойдзе на раскол Фронту. Але яго прапанова ад 8 жніўня — гэта раскол: ён прапануе стварыць замест Фронту кааліцыю БНФ. Бязумоўна, можа гэта і рэалізуецца, бо сёньня суадносіны сілаў прыкладна аднолькавыя, а адна палова ня ў стане навязаць сваю думку другой. Пазьбегнуць небясьпекі расколу будзе нялёгка, хоць, наколькі я ведаю пазыцыю той часткі арганізацыі, якая падтрымлівае Вячорку, яна будзе выступаць за захаваньне Фронту. Сёньня нам прапануюць «гарызантальны» падзел — два незалежныя кіраўнікі, неабавязковая сыстэма каардынацыі ў выглядзе таго, што кіраўнікі сустракаюцца і абмяркоўваюць што-небудзь. Фактычна, гэта заклік да расколу і здрада інтарэсам Фронту і інтарэсам Беларусі, таму што Фронт — гэта наша агульная каштоўнасьць, гэта самая галоўная апазыцыйная сіла, і было-б вельмі недарэчы яе расколваць. Фронт як арганізацыя дэмакратычная можа суіснаваць з людзьмі, якія прытрымліваюцца іншых поглядаў на тактыку, мэтады дзейнасьці, але галоўная сіла Фронту ў тым, што ён можа выступаць па шэрагу пытаньняў адзіным арганізмам. І наша слабасьць ня ў тактыцы, не ў стратэгіі, а ў праблемах кіраўніцтва, сыстэма якога склалася абсалютна непрымальна.

**«НН»: Улічваючы тое, што каманды Пазьняка і Вячоркі вядуць зараз актыўную агітацыю, як, па Вашаму, складуцца вынікі галасаваньня на другой сэсіі шостага зьезду БНФ?**

*Юры Хадыка:* Я ўжо выказаў сваё задавальненьне наконт таго, што склалася ўнікальная сытуацыя — ніхто не абраны, і людзі маюць магчымасьць паразважаць, падумаць, асэнсаваць сытуацыю. Мы зараз агітуем, гэта робіць і група Папкова. Я перакананы, што мы атрымаем большасьць, бо здаровы сэнс на нашым баку...

гутарыла Тацяна Каліноўская.
З «Нашай Нівы»— скарочана.



Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ, (ЗША)

## ВЫНІШЧЭНЬНЕ НАЦЫІ

У сакавіку 1921 году Расея і Польшча, ня лічачыся з думкамі беларускага народу, падпісалі Рыскае пагадненьне, якое ў наступныя 18-ць з паловай гадоў фізычна дзяліла беларускую нацыю, сілком разлучала беларускія сем'і, прымушала сваякоў, знаёмых і блізкіх сяброў ісьці ў невядомую будучыню, кідаючы іх у палітычна супроцьлеглыя, варожыя беларусам дзяржаўныя ўтварэньні.

Рыскі трактат паказаў поўную адсутнасьць сумленьня ў кіраўнікоў Расеі і тадышняе Польшчы. Гэта быў зьдзек над беларускай нацыяй, жорсткае ігнараваньне імкненьняў нашага народу, які, як і іншыя паняволеныя Расеяй народы, намагаўся вырвацца з расейскіх імпэрскіх кіпцюроў і здабыць волю для свае Бацькаўшчыны.

Нашыя народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас з моцным абурэньнем адклікнуліся на гэты сапраўды крымінальны ўчынак усходніх і заходніх суседзяў Беларусі. У 1926 годзе ў сваім вершы «Каб...» Янка Купала з праклёнам пісаў:

Каб таго парвала
З сэрцам на тры часьці
І зьвяр'ё збрылося
Мяса параскрасьці, —

Хто быў вінаваты
Нашаму падзелу,
На кускі парваўшы
Маці роднай цела.

У вершы «Беларускаму люду» Якуб Колас яшчэ з большым абурэньнем рэагаваў на крыўду зробленую нашаму народу, на поўную абразу нашага нацыянальнага гонару, на зьнявагу і пазбаўленьне правоў чалавека ўсяе беларускае нацыі:

Нас падзялілі — Хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры...
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць,
Годзе той крыўды! У ногу з братамі
Будзем свой край вызваляць.

Якуб Колас ня толькі адкідаў межы, пастаўленыя ў Беларусі, але адчынена заклікаў свой народ ісьці актыўна змагацца супроць гэтых межаў, ісьці «свой край вызваляць».

Абурэньне нашых паэтаў яшчэ больш узмоцніла націск, які на іх рабілі бальшавіцкія ўлады, зрабіла іх вязьнямі ў сваёй роднай хаце. Але, дзякаваць Богу, на гэты раз яны яшчэ выжылі.

Менш шчасьлівым, аднак, быў іхны вучань — малады, таленавіты Аляксандар Дайлідовіч, вядомы ў беларускай паэтычнай літаратуры, як Алесь Дудар. У канцы 1928 году, у свае 24 гады, Алесь Дудар ня мог вытрымаць гвалту ўчыненага нашымі сус едзямі беларускаму народу ў 1921-м годзе. Ён напісаў верш, які хоць і ня меў аўтарскае назвы, але стаў добра вядомым літаратурнаму Менску (і расейскамуГПУ) сваім першым радком «Пасеклі наш край папалам»

Ніжэй я падаю амаль поўны тэкст гэтага верша — шэдэўра беларускай патрыятычнай паэзіі таленавітага мазырчаніна, які, не шкадуючы ўласнага жыцьця, ня мог ня выліць праўды сваіх думак, ня мог не падзяліцца гэтымі думкамі з сваім гаротным народам:

Пасеклі наш край папалам,
Каб панскай вытаргаваць ласкі,
Вось гэта — вам, а гэта нам,
Няма сумленьня ў душах рабскіх.

За ўсходнім дэспатам-царком
Мы бегаем на задніх лапках,
Нью Ёрку грозім кулаком
І Чэмбэрлена лаем трапна.

Мы не шкадуем мазалёў,
Мы за чужых праклёны роім,
Але бяз торгу і бяз слоў
Мы аддаем сваіх гэрояў.

Ня сьмеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай візы,
Бяз нас усё робяць макляры
Ды міжнародныя падлізы.

О, ганьба, ганьба! У нашы дні
Такі разлом, туга такая!
І баюць байкі баюны
Северо-западного края...

Плююць на сонца і на дзень,
О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?
Ім мураўёўскі-б гальштук узьдзець,
Нашчадкам мураўёўскім гэтым...

Але яшчэ глушэце кроў,
Гарыць душа і час настане
Калі з-за поля, з-за бароў
Па-беларуску сонца гляне.

Тады мы ў шэрагах сваіх
Быць можа шмат каго ня ўбачым,
З тугою ў сэрцы ўспомнім іх,
Але ніколі не заплачам.

А дзень чырвоным зацьвіце
І мы гукнём яму «Дабрыдзень»,
Ці са шчытом, ці на шчыце
У краіну нашу зноў мы прыйдзем.

Хоць гэты верш нідзе ня быў надрукаваны, яго заўважыла расейска-бальшавіцкая катавальня. Наш паэт-патрыёт згубіў сваё жыцьцё. Ён злажыў сваю мудрую галаву, стаўшыся яшчэ адною ахвяраю за волю Бацькаўшчыны. Расстралялі Алеся Дудара 29-га кастрычніка 1937-га году на 33-м годзе яго неразквітнеўшага жыцьця. З ім у той самы дзень загінулі Анатоль Вольны, Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Васіль Сташэўскі, Пятро Хатулёў і Міхась Чарот. У наступны дзень, 30-га кастрычніка 1937-га году, ахвярамі расейскага зьдзеку сталіся Тодар Кляшторны, Янка Нёманскі і Юлі Таўбін. (ЛіМ, 8-га студзеня 1993 г.)

Дзе, скажэце, у якой краіне магло стацца, каб параўнальна невялікая нацыя магла ў два дні згубіць 13 (альбо можа і болей) сваіх паэтаў і пісьменьнікаў, таленавітых тварцоў літаратуры, патрыётаў свайго народу, красы прадстаўнікоў прыгожага мастацтва? Асабліва жудасным у гэтым было тое, што вінаватым у забойстве не было нейкае нечаканае стыхійнае бедзтва. Не! Каб вынішчыць усё, нават сьляды беларускае незалежніцкае думкі, расейскія ўлады, якія напрацягу стагодзьдзяў кляліся ў «непахісным братэрстве» да нашага народу, паднялі перш за ўсё сваю злосную руку няміласьлівага ката на праведнікаў беларускае культуры, на беларускае слова і на нашу родную мову. Ім трэба было задушыць беларускую культуру і мову, гэтую жыватворную кроў нашага народу, каб зьнішчыць нацыю.

У 30-я гады, справаводзтва ў гаспадарчай галіне калгасна-прамысловае сыстэмы ў падсавецкай частцы Беларусі вялося па-беларуску. Бальшыня школаў была беларуская, існаваў беларускі тэатр. Аднак, у гэтак званых сілавых, кіруючых урадавых струкрурах БССР, куды, звычайна, уваходзіла ГПУ, а пасьля НКВД і КГБ, дзяржаўнаю моваю была выключна мова расейская, пачынаючы ад мовы турэмнага замыкайлы да мовы вышэйшага кіраўніка расейска-савецкае дзяржаўнае піраміды. Гэтыя фактычныя кіраўнікі ураду ў сваёй бальшыні таксама былі расейцамі, спэцыяльна прысланымі з імпэрскага цэнтру для кіраваньня беларускімі нацмэнамі. Відавочна існавалі і неапублікаваныя афіцыйныя тэмы, на якія не дазвалялася пісаць нашым паэтам і пісьменьнікам, калі яны не хацелі трапіць у ворагі народу — беларускія нацдэмы. Пра гэта мы даведваемся з кнігі «Валеры Маракоў», выдадзенай у Менску ў гэтым годзе, у якой зьмешчаная вытрымка з характарыстыкі Валера Маракова для НКВД, напісаная кіраўніком Саюзу Пісьменьнікаў БССР Міхасём Клімковічам у сакавіку 1935 году. Гэты беларускі прайдзісьвет піша наступнае пра свайго калегу:

«Основная линия его поэзии — мещанское воспевание любви. Мещанские «романсы», луна, соловей, любимая девушка, розы, синее небо, васильки — вот атрибуты его поэзии. Рядом с этой тематикой прорывается националистическое восхищение Белорусьею...»

Вось якая жудасьць! Лірыцы, чульлівасьці не было месца ў беларускай паэзіі. Бедныя беларускія салаўі! Сьпеваў нават і іх, гаротных, ды яшчэ пад сінім небам, не дазвалялася слухаць у Беларусі.

— * * * —

У жнівеньскім нумары "Беларускага Дайджэсту" быў надрукаваны досыць доўгі, шматгранны зьместам артыкул Сакрата Яновіча «Великий и могучий. русский язык...» Сярод некаторых, нават, праўдзівых выказваньняў, спадар Яновіч разглядае шэраг спрэчных пытаньняў палітычна-эканамічнага характару, якія тычацца беларуска-расейскае інтэграцыі. Што цікава, ці, хутчэй, незвычайна, дык гэта тое, што сп. Яновіч не падае крыніцаў ягоных «фактаў», а робіць, мабыць, чыста свае і неабавязкова праўдзівыя дэкларацыі. Яно і зразумела, абвяшчаць «сваю» праўду непараўнальна лягчэй, чым яе шукаць. Дык вось ён піша:

«Хоць ніхто добра ня ведае, што такое нацыя і нацыянальнае пачуцьцё, але можна не сумнявацца, што ня мова ў ім галоўная і не асобна-нацыянальная культура. У гэтым мейсцы давайце адкажам, ці хто памёр ад недахопу культуры? А з недахопу ежы, хлеба? — ого, цэлыя плямёны і народы!»

Мы ўжо гаварылі, што культура і асаблівa мова — гэта жыватворная кроў нацыі. Гэтае ісьціны людзтва трымаецца спрадвеку. На яе спасылаюцца ня толькі абаронцы мовы, але і ворагі. Згубіўшы сваю мову і культуру зьніклі балцкага паходжаньня прусы, ня стала яцьвягаў. Няўжо, сп. Яновіч, я гэтым «адчыняю» Амэрыку? Бачачы пагрозу існаваньню нацыі, наш вялікі зямляк Франьцішак Багушэвіч у далёкім мінулым стагодзьдзі казаў: «не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі». А ўжо цяпер, на пачатку гэтага дзесяцігодзьдзя, на міжнародным кангрэсе беларусістаў у Менску ў 1992 годзе вядомы на ўвесь сьвет наш славуты Васіль Быкаў казаў:

"Зноў, як і заўсёды, найбольшыя спадзяваньні кладуцца на нашую мову, гэты галоўны здабытак, нашае гістарычнае апірышча. Нездарма яе вынішчалі стагодзьдзямі, забаранялі, аплёўвалі, адвучалі ад яе цэлыя пакаленьні. У імпэрыі патрэбная была адна мова, імпэрская мова. Але калі мы, нацыянальна панішчаныя, клясава разьяднаныя, забруджаныя шматгадовай хлусьнёй, усё-ж нешта значым у сусьветнай супольнасьці народаў, то перадусім праз нашую мову. Без яе ад нас не засталося-б і сьледу, як не засталося яго ад тутэйшых яцьвягаў».

Прызнаюся, ня ведаю якія «цэлыя плямёны і народы» памерлі выключна ад недахопу ежы, але добра ведаю, што голад ва Ўкраіне, штучна створаны савецкаю сыстэмаю, зьнішчыў шэсьць мільёнаў украінцаў, але не выкараніў, а, наадварот, скансалідаваў украінскую нацыю. Ворагі свабоды народаў таксама ведаюць, што каб зьнішчыць нацыю, трэба забраць ад яе культуру і мову. Так няўхільна вяла і прадоўжвае весьці сябе расейская вялікадзяржаўная эліта ў адносінах да Беларусі.

Пераходзячы да эканамічнае тэмы сп. Яновіч піша:

«Тоже-белоруссов Расея ня прыме ў свае абдымкі. Нятой час і эпоха, калі аплачваліся тэратэрыяльныя анэксіі. Найраней уцямілі тое купецкія ангельцы, пакідаючы калёніі (перасталі даваць даход). Расеі ўзяць у свой бюджэт Беларусь раўназначнае гаспадарчаму самагубству».

Ну што Вы, сп. Яновіч, жартуеце? Былыя афрыканскія калёніі такія як Конга, Нігерыя, альбо краіны Бліжняга Ўсходу, Сярэдняй Азіі, Каўказу, яны-ж, вобразна кажучы, сядзяць на даходзе. Запасы карысных выкапняў ад нафты, да газу, да золата ў іх невычарпальныя. Купецкія, як Вы кажаце, ангельцы пакінулі калёніі не таму, што не было даходу. Не! Пасьля Другое сусьветнае вайны каляніяльныя народы пачалі дамагацца свабоды. Абрыдла няволя. Брытанская імпэрыя, у адрозьненьне ад расейскай, хутка зразумела тую вялікую пагрозу, якую нясе вызвольная барацьба каляніяльных народаў дабру імпэрыі. Разумна робячы, Англія адмовілася ад даходаў, дала волю каляніяльным народам ведаючы, што за супраціў трэба будзе плаціць ангельскаю крывёю. Расея-ж, ставячы даходы вышэй крыві сваіх грамадзянаў, ужо ўсяроўна згубіла Чэчню, а цяпер, мабыць, згубіць і Дагэстан. Што тычыцца «гаспадарчага самагубства», дык Вы, сп. Яновіч, абражаеце гонар свае-ж нацыі. Сваёю безпастаўнаю дэклярацыяй Вы становіцеся ў шэрагі дылетантызму, ідзяце ў ногу з расейскімі вялікадзяржаўнікамі, якія заўсёды папракалі беларусаў у тым, што вы-ж, маўляў, бедныя і што без расейскай дапамогі вы не пражывяце. Няўжо Вы верыце ў расейскі альтруізм, у тое, што Расея сваімі «воссоединениями» альбо «падачай брацкае рукі» ня мела ад Беларусі ніякае карысьці, а толькі, як кажуць, з душою наросхрыст, дапамагала беларусам, бяручы іх на сваё ўтрыманьне? Якая незразумелая заклапочанасьць!

І, нарэшце, яшчэ адна вытрымка з Вашага артыкулу:

«Шохін некалі падлічыў, што 'беларускі набытак' каштаваў-бы Расеі прыблізна сто мільярдаў даляраў, якіх няма і ня будзе».

Спадар Яновіч, хто такі Шохін? Вы пішаце пра яго так нібы ён вядомы ў цэлым сьвеце, нібы гэта нейкая эканамічная славутасьць накшталт Ньютона ў фізыцы. А таму чытач павінен верыць, што калі ўжо Шохін падлічыў, дык што-ж тут скажаш? У сапраўднасьці яно, мабыць, усё ня так. З пашаны да чытачоў газэты можа я Вам крышачку дапамагу, хоць гэта можа і не ўваходзіць у абавязкі камэнтатара. Але ўсё такі...

Аляксандар Шохін — гэта звычайны сябра расейскае «Думы», у якой ён рэпрэзэнтуе партыю свайго былога «боса» Віктара Чарнамырдзіна «Наш дом — Россия». Перад «Думаю» ён належаў да ўраду прэм'ера Ягора Гайдара, а пасьля Чарнамырдзіна. Ніякаю асаблівaю славутасьцяй ён ніколі ня быў. Я адважуся нават сказаць, што падлікаў ён, можа, і не рабіў, праз тое, што такімі дзяржаўнага маштабу працамі адзін чалавек наўрад ці займаецца. Адкуль, сп. Яновіч, Вы ўзялі тыя мільярды — я ня ведаю, бо сваімі крыніцамі Вы ня хваліцеся. Аднак, я ведаю, што Шохіна, як і іншых сяброў расейскіх палітычных груповак, пачынаючы ад учарашніх і сёньняшніх камуністаў і канчаючы гэтак званымі лібэраламі-дэмакратамі, усякімі там гайдарамі, кірыенкамі, чубайсамі, якаўлевымі, цікавіць найперш поўная беларуска-расейская інтэграцыя — улучэньне Беларусі ў склад Расейскае Фэдэрацыі без ніякага патураньня беларускай незалежнасьці.

Паведамлялася, што на сваім паседжаньні ў мінулым студзені яны адчынена выказвалі непакой, што патураньне Беларусі можа выклікаць непажаданыя для Расеі абставіны, пры якіх Татарстан альбо іншыя нацыянальныя рэспублікі будуць дамагацца незалежнага статусу, які мела-б Беларусь.

Калі-б, прыпусьцім, нейкія падлікі і рабіліся, дык няўжо-ж Вы, сп. Яновіч, думаеце, што вынікі гэтых падлікаў, у якіх разглядаліся-б ня толькі эканамічныя, але і палітычныя інтэграцыйныя фактары карысьці для Расеі, былі-б адразу апублікаваныя, каб усё гэта хуценька данеслася да вушэй вонкавага сьвету? Расейская эліта з яе імпэрскімі амбіцыямі такой наіўнасьцю ніколі не адлічалася.

Каб адрадзіць незалежнасьць нашае нацыі, мы не павінны думаць катэгорыямі нашых ворагаў. Мы павінны быць паінфармаванымі рэалістамі, верыць у жыцьцё сваіх людзей і свайго народу, верыць і шанаваць жыватворную моц нашае мовы, і ніколі, ніколі не адракацца ад яе, «каб не ўмерлі».

Нам трэба жыць з вераю ў «праменнае заўтра» так, як пра гэта прачула пісала нашая патрыётка Ларыса Геніюш:

Жыць — гэта ў заўтра праменнае верыць,
З паднятай ля злыдняў прайсьці галавой.
Жыць — гэта значыць прачнуцца ад цемры
І сонца ўбачыць над сумнай зямлёй.

Жыць — калыхаць і на вечнасьць праводзіць,
Род свой і мову кахаць, сьцерагчы,
Хай зьзяе, хай вечна ў крыві нашай бродзіць,
Роднаю песьняй чаруе ў жыцьці.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!!!

**Моцна просім не забывацца перасылаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты. "Беларускі Дайджэст"— незалежная газэта выдаецца толькі дзякуючы вялікай ахвярнасьці людзей добрае волі. Калі ласка, просім, памятайце пра нас... Шчыра дзякуем!**

## ВАСІЛЁЧКІ

Словы М. Кавыля Музыка М. Куліковіча-Шчаглова




1. Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі,
Васілёчкі ўсюды, дзе ні кінь...
Ой, чаму кароценькія ночкі,
Ой, чаму вялікія дзянькі?

2. Дзень цалюткі жыцейка я жала,
Мае ручкі, ножанькі баляць.
Ня будзі, матуленька, так рана,
Дзень цалюткі спрытна буду жаць.

3. Вунь ідзе дарожанькай каханы —
Перасталі, ручкі не баляць.
Ой, чаму-ж ты, ночанька, так мала?
Няма часу зь мілым пагуляць.



*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
**чакае Вашае ахвяры**
**на**
**ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!**

*Іван ПРЫЛУЦКІ*

*Народная Воля*

***Вельмі добра, што на старонках паважанай "Народнай волі" друкуецца шэраг мастацкіх твораў, якія ў большасці выпадкаў прымушаюць задумацца. Асабліва гэта тычыцца прыпавесцей Васіля Быкава. Менавіта яны і знаходзяцца ў цэнтры майго артыкула, які прапаноўваю Вашай увазе. На мой погляд, асноўны ўрок літаратуры апошніх стагоддзяў і асабліва творчасць народнага пісьменніка 90-х гадоў даюць сур'ёзнейшыя падставы для глыбокага роздуму аб лёсе народа. Спадзяюся, што артыкул зацікавіць Вас.***

# Сказаць людзям праўду



Існуе легенда, быццам анёл смерці, які спускаецца з нябёсаў, каб разлучыць душу чалавека з целам, спрэс пакрыты... вачыма. Неяк няўцям: навошта ж анёлу, які і да гэтага бачыў усё, што робіцца на зямлі, столькі вачэй? Аказваецца, гэтыя вочы прадвызначаны не яму. Бо здараецца: анёл, прыляцеўшы па чыюсьці душу, разумее, што паспяшаўся, што яшчэ не прыйшла пара чалавеку развітвацца з жыццём. І тады ён не чапае ягоную душу, а надзяляе яе ўладальніка яшчэ адной парай вачэй. Пасля гэтага чалавек пачынае бачыць не толькі тое, што і ўсе астатнія, але і тое, што даступна толькі іншаму сусвету, іншаму, вышэйшаму вымярэнню і існаванню. Для звычайных жа людзей ягоныя ўяўленні здаюцца надуманымі, фантастычнымі, нават галюцынаванымі... То яны маюць звычайны, абмежаваны зрок.

Ці не таму мы, выхаваныя ў аднастайным вымярэнні, са сваім традыцыйным успрыняццем свету, не можам спасцігнуць яго шматмернасць і невычарпальнасць, паглядзець вакол вачыма тых, хто бачыць намнога болей і далей? Часцей за ўсё мы не звяртаем увагі на гэтых абуджальнікаў думкі — прарокаў, або, што яшчэ горш, залічваем іх у "чернители", "хулители", што замахваюцца на наш звыклы лад жыцця, ствараюць душэўны дыскамфорт. Мы гатовы нават пабіць іх камянямі, абы толькі не міналі, не перашкаджалі жыць па даўняй, звыклай завядзёнцы, хоць яна і кепская. Бо так лягчэй, бо так прасцей. Так было ва ўсе вякі, ва ўсіх народаў, і прыкладаў таму — легіён.

Для беларусаў канца XX ст. такім абуджальнікам стаў Васіль Быкаў. І не толькі таму, што на яго жыццёвым шляху ўжо была сустрэча з анёлам смерці. Сапраўды, на Кіраваградчыне да гэтага часу стаіць сціплы абеліск, на якім сярод імёнаў загінуўшых воінаў значыцца і прозвішча лейтэнанта Быкава. Але, цяжкапаранены, ён застаўся жыць. Магчыма, тады і перадаў яму нябесны вяшчун свой сакральны дар... А можа, гэта адбылося пазней, калі, будучы ўжо народным пісьменнікам, ён спасцігнуў, адчуў рэальную пагрозу смерці нацыі (як Пімен Панчанка — смерць мовы ў вершы "Развітанне"). Ці не пасля адыходу ў вечнасць Алеся Адамовіча, Васіля Віткі, Пімена Панчанкі, Максіма Танка анёл смерці пакідае свой дар тым, што засталіся і змаглі асэнсаваць праўду? Якраз у гэты час з'яўляюцца адметныя быкаўскія апавяданні з цыклу "На Чорных лядах", "Сцяна" і "Народныя мсціўцы" (два апошнія надрукаваны ў "Народнай волі").

Каб асэнсаваць гэтыя творы, варта вярнуцца крыху назад і згадаць ягоную аповесць "Сцюжа", якая прачытваецца цяпер як філасофская прытча аб трагічнай долі беларусаў. У быкаўскай аповесці, якую аўтар пачаў у 60-я, а закончыў і здолеў надрукаваць толькі ў 90-я гады, апавядаецца аб апошніх днях параненага партызана Азевіча, былога райкамаўца, змушанага паміраць на пачатку вайны ў глыбокай самоце. Перад смерцю герой выходзіць у нязведанае: "Ён хістка ступіў у снег, пасля, не азіраючыся, пайшоў каля парасніку, не надта спрытна ўпраўляючыся з кійком... Трэба некуды дыбаць. Вось куды толькі?.. Бо хто ж яшчэ ім паможа..."

У чарговы раз пачынае адвечнае падарожжа па сваёй зямлі яе нібыта гаспадар. Куды праляжа яго шлях? Што зрывае яго з наседжаных мясцін? Сваё гняздзечка мае нават ластаўка, іншая птушка. "Птушыныя гнёзды бурыць нельга, вялікі то грэх. А вось чалавечыя..." Няма прыстанішча ў чалавека, вымушанага ў злую завею і сцюжу пакінуць цёплае сховішча (не дом, не хату, не кубло, а якраз сховішча) і выйсці насустрач сіверу — лёсу, хутчэй за ўсё апошні раз у гэтым жыцці. Нават звер у такую пару мае бярлог. Няма толькі месца на гэтай зямлі Азевічу, як не было яго Роўдзе, герою аповесці В.Быкава "Аблава" — таго ўрэшце згадзілася прыняць толькі чорнае балотнае вока...

Галгофа — фінал жыцця Петрака і Сцепаніды ("Знак бяды"). Сціплы абеліск з далёка не ўсімі імёнамі загінуўшых — апошні знак пра маладзенькіх хлопчыкаў ("Абеліск"). Ці нават яшчэ страшней — равок у тумане людской памяці як плата за невядомае і нязздзейсненае злачынства ("У тумане"). Ніводзін з герояў В.Быкава ў творах апошніх часоў не знайшоў шчасця на роднай зямлі. І не толькі ў ваеннае ліхалецце. Шэрагам апошніх твораў пісьменнік на новым этапе алегарычна ўвасабляе класічную традыцыю беспрытульніцтва беларусаў на роднай зямлі, якая становіцца шчодрай толькі тады, калі прымае іх у свае нетры.

"Ён парадкам ужо адышоўся ў начы, наперадзе выразна шарэў у снезе арэшнік, як пачуў рух ззаду і азірнуўся. Па ягоных слядах жвава бег чорны вялікі Ваўкалака — размашыста сігаў па снезе, пэўна ж, каб дагнаць чалавека... Пастаяўшы трохі, Азевіч ступіў колькі крокаў у напрамку да леса, і Ваўкалака таксама нетаропка пайшоў па ягоных слядах. Крыкнуць Азевіч не мог, што тут было рабіць? Уцякаць, ратавацца ці ісці з гэтым у лес?.. З наганам напагатове ён памалу патупаў да ўзлесся, штораз азіраючыся. Ззаду за ім, не падбягаючы блізка, то бег, то прыпыняўся Ваўкалака. Чагосьці чакаў ад чалавека..."

Чаго ж чакае гэтая таямнічая, загадкавая істота нацыянальнай міфалогіі, злавесны цень якой суправаджае беларуса ў яго спрадвечных пакручастых вандраваннях па роднай зямлі? (Ваўкалак — гэта чалавек-пярэварацень, які валодае звышнатуральнай здольнасцю ператварацца ў ваўка, а потым — зноў станавіцца чалавекам.) Аб чым яна прымушае згадваць, якія жудасныя асацыяцыі навявае?

У першую чаргу — пра наша спрадвечнае адчуванне часовасці на роднай зямлі, няўпэўненасці ў саміх сабе, вечнай залежнасці ад некага больш дужага ці нахабнага. Мы — не гаспадары сваёй зямлі. Падобная ідэя, на жаль, стала вызначальнай у беларускай літаратуры апошніх двух стагоддзяў (што і знайшло сваё ўвасабленне ў творчасці В.Быкава), склалася ў адметную традыцыю, ля вытокаў якой стаяў славуты зборнік "Шляхціц Завальня" Яна Баршчэўскага, дзе ўпершыню і з'яўляецца вобраз ваўкалака. Рамантык XIX ст. не прымае новых парадкаў, што без жалю разбураюць спрадвечныя традыцыі, устоі народа, адмаўляе сусвет, дзе ўсё прадаецца і купляецца, таму падае гісторыю ў алегарычна-міфалагічным плане.

У творах В.Быкава пануюць не фантастычныя ці міфалагічныя істоты, але для нас няма розніцы. Рэальныя валадары прывялі беларусаў да таго, што ўся нацыя стала нібы вандроўнай. (У апавяданні Я.Баршчэўскага, дарэчы, "за адзін толькі год траціна падданых кінулі свае хаты і пайшлі блукаць па свеце".)

Галоўнае, падкрэсліваюць такія непадобныя творцы, не ў самой крыніцы зла, а ў тым, што зло схавана і ў самім чалавеку. І лёкаі, што служаць яму, падчас страшней за гаспадара. Героі Я.Баршчэўскага, не вытрымаўшы выпрабавання на права быць чалавекам, становяцца цацкай у руках валадароў, урэшце, прадаюць сваю душу д'яблу.

"Падпісалі" свой закляты цырограф і Азевіч, які, дабіўшыся ўлады, пачынае нішчыць усё сваё, роднае, і сын Роўды з аповесці "Аблава", які наладжвае сапраўдную аблаву на свайго бацьку, што ўцёк з далёкай Сібіры. Там назаўсёды засталіся маці і сястрычка маладога кар'ерыста, а тут ён спіхвае ў прорву свайго тату. Яму служаць і іншыя лёкаі кіруючага шайтана. Хтосьць больш моцны можа іх лёгка прымусіць пераступіць цераз святыні — разбіць жорны, расправіцца з бацькам. Ці не таму плодзяцца д'яблы і розная нечысць, што кожны злачынны ўчынак спараджае сабе падобны? Але той, хто яго ўчыніў, павінен несці вялікую адказнасць.

В.Быкаў не паказвае перадгісторыю Ваўкалакі, не тлумачыць, сапраўдны гэта пярэварацень ці проста велізарны сабака, што ўпадабаў чалавечую кроў. Ва ўсялякім разе, ён не стаў ім, як у Баршчэўскага, у выніку закляцця. Той бачыць прычыну ў адыходзе ад спрадвечных традыцый, сапсутасці нораваў, людской жорсткасці. Сапраўды, у старажытнай літаратуры не было падобнага ўяўлення. Чалавек з дазволу Бога быў гаспадаром на запаветнай зямлі. І не толькі чалавек, але і рыбы, звяры, нават пчолы, што баранілі "ульи своя", не былі чужымі ці лішнімі на ёй. Толькі тады, калі чалавек забыўся на сваё слаўнае мінулае, апаганіў косці продкаў, ён страціў перспектывы развіцця і стаў пілігрымам на роднай зямлі.

У згаданай кнізе Яна Баршчэўскага, якая мае падзагаловак "Беларусь у фантастычных апавяданнях", над трагедыяй народа рыдае Плачка, паэтычна-тужлівы сімвал. Але і яе слёзы людзі амаль не разумеюць. Адзінае, што іх яшчэ можа стрымаць у страшэнным памкненні да разбурэння святынь, гэта постаць асілка з мячом у руках, які карае рабаўнікоў і тых, хто не помніць славы продкаў: "Нікчэмныя людзі! Прыйдзе час падняцца з магіл мёртвым, і вы будзеце зганьбаваныя перад усім светам!" Ці не з гэтага матыву нарадзілася тэма "Пагоні" М.Багдановіча, яшчэ аднаго яскравага ўвасаблення нашай велічнай вечнай вандроўкі? Невыпадкова ў свой час словы "Дзе сляды вашы йдуць і куды?" прапаноўваліся ў якасці нацыянальнага гімна.

Трагедыю XX ст. не аплача ніхто. Бо шляхі, якія з такім болем паказаў В.Быкаў, вядуць да знікнення, а пачуццё нацыянальнага самазахавання амаль ужо не існуе, і яно можа зусім растаць у мітусні блізкіх гадоў. "Што гэта за характар такі — незласлівы ці непераборлівы да дабра і да зла? Што гэта — сялянскае, жаночае? Ці нацыянальнае? Адкуль яно ўзялося, добра гэта ці не?"

"Кепска будзе" народжаным на гэтай зямлі, прадракаў наш класік Францішак Багушэвіч. Яго героі шукалі праўды ў судзе, у астрозе, нават на тым свеце, у пекле. Але дарэмна. На абшарах Беларусі — ад зарослай травой крынічкі да срэбраводнага Нёмана, ад балота са старымі бярозамі да шырокіх зялёных лугоў, ад лясной глушы да паплавоў — вандруюць і героі Якуба Коласа ў пошуках "новай зямлі". Але і тут марныя спробы беларусаў знайсці сваю зямлю і песню. У самы разгар пошукаў дарогу Міхалу перабягае воўк,

які раптоўна гіне ў хвалях зімовай рэчкі. Менавіта вочы зверапрывіда, напоўненыя жудасцю смерці, убачыць ён у хвіліны свайго трызнення-расстання з жыццём. Дарэмна Міхал шле свой палымяны запавет дзецям і брату — няма роднай зямелькі беларусу на гэтым свеце. Ні новай, ні адвечнай.

...У хваравітым сне быкаўскага Азевіча ахоплівае страх, вядомы яшчэ з дзяцінства. "І ў той яго страх паступова ўваходзіў нехта знадворку, нехта варушыўся за вакном. Ягор бачыў за шыбінай цьмяную касмылявую морду, то, канешне, быў воўк".

Магчыма, здасца, што ў рэалістычным творы акцэнт на падобныя сцэны ўяўляецца празмерным, выпадковым. Аднак рэальнасць падчас больш фантасмагарычная, чым самая хваравітая фантазія (сын знішчае бацькоўскія жорны — сімвал хлеба і жыцця; настаўніку-беларусу задаюць пытанне: "Во ты і вучыцель, і граматны, а чаму ты, браце мой, па-беларуску гаворыш?"; каб заняць хату гаспадара, яго робяць "ворагам народа" і г.д.).

Сымон-музыка з аднайменнай паэмы Якуба Коласа вандруе з дзіцячых гадоў па свеце. І ні ў родным доме, ні ў хаце жабрака, ні ў карчме арандатара, ні ў палацы пана не знаходзіць супакою.

*Дык хіба ж мы праў не маем*
*Сілы шлях свой адзначаць*
*І сваім уласным краем*
*Край свой родны называць?*

Закрадваецца нават крамольная думка, што шчасце і заключаецца менавіта ў вечнай вандроўцы. У казцы "Ноч, калі папараць цвіце" Колас апавядае, што дзяцей беларускіх палёў і лясоў выхоўвалі так, каб "яны пакідалі сваіх бацькоў і ад бацькоўскіх звычаяў адракаліся. ...Яны рабіліся слугамі суседзяў і ўжо стыдаліся прызнаваць сябе дзецьмі тутэйшых людзей". Ці не таму пануры Ваўкалак, якому наканавана чалавечае аблічча змяніць на ваўчынае, дае юнаку "словы гневу і абурэння, каб молатам білі па струнах сэрца таго, хто прадае сваю айчыну"?

Матыў пілігрымства становіцца вызначальным і ў паэзіі Янкі Купалы. Яго ўвасабленне набывае алегарычна-ўмоўную форму. Для Сама, героя паэмы "Сон на кургане", што шукае зачараваны Скарб, варожым становіцца ўсё на гэтым свеце: і лес, і замчышча, і поле. Апафеозам творчасці вялікага песняра стануць славутыя "Паязджане". Адштурхоўваючыся ад класічнага народнага міфа аб заклятым вясельным поездзе, што ніяк не можа дастацца да дому, Купала стварае абагульнены вобраз народа, які страшэннай рэальнасцю змушаны вандраваць па роднай старонцы, не маючы магчымасці ўзбіцца на цвёрды шлях. Бо і сама дарога, нават узбітая, ідзе праз ноч, якая сыпле чары, абстаўлена галінамі, што тырчаць, нібы шкілеты. Перад намі — глыбока нацыянальная паэтычная інтэрпрэтацыя класічнага сімвала-міфа, які вядомы як матыў скітальніцтва, пілігрымства, матыў Агасфера, што паходзіць з біблейскага падання аб праклявцці, закляцці за саўдзел у злачынстве. Легендарны Агасфер становіцца "вечным жыдам" у пакаранне за тое, што не дапамог Хрысту ў яго апошняй дарозе на Галгофу.

За якія ж грахі быў пакараны беларускі народ? Каму ён не дапамог у апошняй дарозе? Да якога часу дзейнічае тое страшэннае праклецце, у адпаведнасці з якім ён асуджаны быць ізгоем на сваёй зямлі?

І не так ужо істотна, у які час, пры якой уладзе ўсё гэта адбываецца. Так, беларускі шляхціц Людвік Кандратовіч, які стаў вядомым усяму славянскаму свету як польскі паэт Уладзіслаў Сыракомля, у вершаванай аповесці-гавэндзе "Хадыка" (1847 г.) расказаў пра трагедыю адважнага палескага паляўнічага. Маладога асочніка, што ўпусціў мядзведзя, прызначанага для забавы гетмана, да крыві збіў пан-лоўчы. Ён забівае крыўдзіцеля, а сам хаваецца ў пушчы. Трыццаць год правёў пад яе шатамі няшчасны Хадыка. Родная зямелька спачувала хлопцу, які, як прывід, праблукаў па гушчарах столькі летаў і зімаў, давала яму спажытак і схрон. Але і яна не магла заглушыць тугу па блізкіх, родных, дарагіх. Старац вяртаецца да людзей і ў гэты ж дзень памірае. І толькі паданне засталося аб дзіўным вандроўніку, у якім пазнавалі колішняга маладога паляўнічага.

Нічога новага няма ў гэтым сусвеце. Роўна праз стагоддзе трагедыя паўтараецца. Здарылася яна таксама на Палессі. У 1947 годзе дэмабілізаваны салдат Іван Бушыла заступіўся перад супрацоўнікам НКУСа за маршала Жукава, што ўжо трапіў у няміласць да Сталіна. І тады, каб не паехаць да белых мядзведзяў, выбірае палескі хлопец родныя лясныя абшары. Сорак два гады блукаў ён па балотах, навакольным сасняку, начаваў у капе сена ў глухім непрыветным лесе. Рассыпаўся ад старасці родны дамок у вёсцы, занеслі на клады бацькоў, а ён так і не выходзіў да людзей. "Баяўся, усіх баяўся", — такі быў адказ няшчаснага.

І што яшчэ дзіўна. Якраз недзе ў той час, калі Бушыла ўжо мерыўся выходзіць з лесу, яго таленавіты малады зямляк Алесь Наварыч (нарадзіўся ў Відзіборы Столінскага раёна, на мяжы з раёнам Лунінецкім, дзе адбывалася вышэйзгаданая адысея) стварае загадкавую аповесць пра зграю ваўкоў: ёю верхаводзіць нейкая дзіўная істота, у якой з цяжкасцю можна распазнаць чалавека. Як быццам арыгінальны празаік падсвядома, з дапамогай тэлепатыі ці яшчэ чаго спасцігнуў трагедыю, што патрабавала абавязковага ўмяшання чалавечай цеплыні і спагады...

Праблема выгнанніцтва, паўторым, была вызначальнай для ўсёй беларускай літаратуры апошніх двух стагоддзяў. І не магло быць інакш, бо яна была вызначальнай і для ўласнага лёсу яе стваральнікаў, жыццёвыя вандроўкі якіх часцей за ўсё суправаджаліся злавесным ценем ваўкалака. Ян Баршчэўскі пасля такіх вымушаных вандровак назаўжды застаўся на Украіне; не знайшлося месца на Радзіме Ф.Савічу, П.Багрыму, Я.Чачоту, К.Каліноўскаму, Ф.Багушэвічу. А згадаем імёны выдатных нашых землякоў: І.Дамейкі, які стаў рэктарам універсітэта ў Чылі, Э.Пякарскага — аўтара першага слоўніка і граматыкі якуцкай мовы, І.Гашкевіча — першага пасла Расіі ў Японіі, М.Судзілоўскага — прэзідэнта сената Гаваяў, Я.Наркевіча-Ёдкі — адкрывальніка электраграфіі і бяздротавай перадачы электрычных сігналаў. Гэта толькі некаторыя з дзеячоў XIX ст., вымушаных доўгі час жыць за межамі роднага краю ці нават навекі скласці там галаву.

Амаль нічога не змянілася і ў нашым стагоддзі, хіба толькі тое, што вандроўкі беларусаў набываюць усяленскі размах. Але, як і раней, беларусы могуць адно: прасіць — ці паміраць за чужыя ідэалы. Як Алесь Гарун, які не мог вярнуцца з Сібіры, бо на Беларусі валадарыла пачвара, што выйшла з дамавіны ("Па старонцы роднай здаўна Ваўкалакі ходзяць, але ж пеўні не спяваюць, слонка не ўзыходзіць!.."). Не мог знайсці сваю "Бацькаўшчыну" К.Чорны, свой "Эдэм" Зм.Астапенка. Не адчулі сябе гаспадарамі гэтай зямлі ні мележаўскі Васіль Дзятлік, ні дзесяткі іншых герояў. Вырасла толькі колькасць імёнаў, якія сталі ахвярамі ценю. І спіс гэты доўжыцца нават у нашыя дні, калі па абставінах, што не залежаць ад іх, вымушаны пакідаць родную старонку яе лепшыя сыны. На пэўны час падалося, што цень Ваўкалака саступіў ценю Чарнобыля, аднак гэта проста мімікрыя адной і той жа жудаснай з'явы, якая пад уплывам нейкіх каталізатараў значна паскорыла рэакцыю.

Трагізмам прасякнуты апошнія творы Васіля Быкава. "Бедны, няшчасны прафесар Скварыш" з апавядання "Бедныя людзі" згадвае сваё хлапчуковае спачуванне мядзведзю ў клетцы, бо цвёрда ўпэўнены, што яму, трапіўшаму ў такую ж "клетку абставінаў", ніхто ўжо не паспачувае. Забіваюць сябе героі апавядання "На Чорных лядах": для іх страшней за смерць тое, што справа, якой было ахвяравана жыццё, загінула. Яны ўсведамляюць, што пагібель — не найгоршае з усяго, што падрыхтаваў ім паўстанцкі лёс.

Пры гэтым выразна мяняецца аўтарская акцэнтацыя. Раней В.Быкаў бачыў прычыны шматлікіх трагедый беларусаў пераважна ў знешніх варожых сілах. Цяпер жа ён болей схільны знаходзіць вытокі нацыянальных праблем ва ўнутраным стане нацыі. Некалі Г.Гачаў пісаў: "Некаторыя славутыя нацыянальныя мастакі лічаць, што нацыянальнымі яны становяцца тады, калі ўсхваляюць свой народ, радзіму і жыццё. Гэта толькі ніжэйшы від нацыянальнага ў мастацтве. Больш высокі і смелы яго від бачыцца ў здольнасці мастака да самакрытыкі".

Наўрад ці многа знойдзецца літаратараў, якія адважацца сказаць праўду не толькі пра станоўчыя, але і пра адмоўныя рысы характару сваёй нацыі. Прычым сказаць смела, бескампрамісна, пазбягаючы гульні ў добрыя словы (апавяданне "Народныя мсціўцы" — "Народная воля", 18 верасня 1998 г.). Аўтар свядома пазбягае ўмоўнасці, гратэскавасці, прытчападобнасці, якія ўласцівыя творчай манеры В.Быкава апошніх гадоў. Але тым больш жахлівай выглядае звычайная гісторыя няўдалай помсты, якая ў выніку свядомага зніжэння, спрашчэння перарастае з аповеда аб бытавым здарэнні ў спасціжэнне сутнасці нацыянальнага характару. Ці не таму тут няма месца не тое што сарказму, але нават іроніі? Бо справы, аб якіх ідзе гаворка, становяцца вызначальнымі не толькі для чатырох вяскоўцаў, вырашыўшых адпомсціць былому кадэбісту, па даносах якога загінулі ў свой час іх родныя. "Былы" не пабаяўся прыехаць і заначаваць у вёсцы, дзе захавалася пра яго нядобрая слава, і абураныя мсціўцы, згадаўшы свае крыўды, патрабуюць расплаты. В.Быкаў надзвычай нетаропка, скрупулёзна, рэчыўна апавядае аб дэталях падрыхтоўкі да гэтай аперацыі. Як інвалід вайны Іван Снайпер, былы ссыльны Саўчанка, настаўнік Ляплеўскі і змарнелы, адзінокі ў гэтым свеце Дубчык, падаграючы сябе "чарнілам", спавядаюць свае трагедыі. У кожнага з іх па даносе Вусава загінулі бацькі, браты, сёстры, зламана іхняя доля. Здавалася б, усё павінна крычаць у гэтых людзях. І сапраўды, адразу яны ўслых ледзь не выюць. Але, прасядзеўшы ноч ля хаты, дзе знаходзіўся нкусавец, на ўсходзе сонца ціха-мірна разыходзяцца. Мала таго, настаўнік Ляплеўскі нават "непроизвольно" дзякуе Вусаву... за кампенсацыю за смерць брата (кошт яе — тры бутэлькі або куфайка) і паціскае таму працягнутую руку.

У класічнай літаратуры падобныя фіналы разраджаліся гнеўнымі тырадамі аўтара (згадаем Гогаля — "...и до какой подлости, мелочности, гадости может дойти человек") ці іранічнымі пасажамі (у Чэхава падмануты муж замест пісталета купляе сетку для перапёлак, а былы сябра дзяцінства паціскае два пальцы высокапастаўленай асобе і хіхікае ад задавальнення). Быкаў знешне ніяк не рэагуе на адмысловы ўчынак свайго героя. Пісьменнік ужо не звоніць у званы, не прарочыць — ён проста канстатуе, ён толькі ставіць дыягназ. І дыягназ — надзвычай несуцяшальны.

В.Быкаў, як сапраўдны народны пісьменнік, гаворыць праўду — страшную праўду — проста ў вочы: няма ўжо таго народа, веліччу якога, мудрасцю і разважлівасцю якога так доўга ўсе захапляліся. І няма чаго гаварыць пра талерантнасць, стрыманасць, спагаду, калі ў рэальнасці маеш справу з нечым іншым, супрацьлеглым. Мо таму высновы В.Быкава пераклікаюцца з фіналам апавядання В.Ластоўскага "Прывід" пачатку стагоддзя. Да Ігната, што ляжыць на печы і разважае аб сваёй няшчаснай долі, з'яўляецца Багіня. Убачыўшы нашчадка багоў, які кідаецца цалаваць ёй руку, яна гнеўна прамаўляе: "Божа мой, колькі рабства! Нягрыцянскі нявольнік больш захаваў у сабе гордасці, чым у цябе, чалавеча, асталася. Няволя затуманіла памяць тваю; забыўся ты людской назовы сваёй і гэтым сцёр ты з ліца свайго знамя людское... Скарбы свае рассыплю перад табой толькі тады, як прыпомніш імя людское сваё, калі прабудзіцца ў табе адвага і гордасць".

У свой час арыгінальная паэтэса Г.Каржанеўская, адштурхоўваючыся ад аповесці В.Быкава "Знак бяды", ці не ўпершыню загаварыла аб негатыўных рысах нацыянальнага характару і, аналізуючы ўчынкі Сцепаніды і Петрака, з сумам канстатавала, што мы — жаночая нацыя. У апавяданні "Народныя мсціўцы" практычна няма жаночых вобразаў, але іх прысутнасць надзвычай адчувальная, бо ўсё, што ні збіраюцца здзейсніць мужчыны, яны робяць з аглядкай на сваіх жонак. І паспрабуйце не пагадзіцца тут з трагічнай высновай, што мужчынамі мы становімся (ва ўсіх сэнсах) выключна пасля гарэлкі! А прачнуўшыся, гатовыя лізаць руку любой набрыдзі, нават вінаватай у смерці блізкіх. Ці не таму ў нас і доля такая — няшчасная? Мы самі яе наклікалі.

У апошні час у "Народнай волі" і некаторых іншых выданнях з'явіліся новыя творы В.Быкава, жанр якіх ён вызначае як прыпавесць ("Камень", "Хвастаты", "Тры словы нямых"). Прыпавесць — гэта беларускі варыянт класічнай прытчы, адной з самых папулярных форм мастацкага алегарычнага мадэлявання рэчаіснасці.

Ужо Ф.Скарына разумеў прытчу як іншасказанне, у якім пад звычайным апавяданнем схавана глыбокая мудрасць, як золата ў пяску, ядро ў арэху. Падобная форма, абапіраючыся на падзеі са звычайнага жыцця, надае ім усеагульны сэнс, падказвае своеасаблівы шлях да спасціжэння вышэйшых духоўных каштоўнасцей, праблем і сэнсу чалавечага жыцця. Рэчаіснасць у прыпавесцях В.Быкава, дзе гаворка ідзе быццам то пра нейкі звычайны валун, то пра долю вялізнага пацука, то пра гісторыю нейкага дзіўнага народа, паўстае ў абагульнена-трансфармаваным выглядзе. Тут няма канкрэтыкі жыцця з пэўнымі рэаліямі, страсцямі, і час у гэтых творах казачны, умоўны. Цяжка сказаць, калі і дзе адбываюцца падзеі, аб якіх апавядае аўтар. Здавалася б, поруч з гэтым і героі павінны былі быць дэіндывідуалізаваны, і падзеі, і сюжэт. Але, нягледзячы на традыцыйную ўмоўнасць падобных твораў, чытачу адразу становіцца зразумела, што гаворка ідзе менавіта пра яго Радзіму і яго самога.

Старажытная прытча — улюбёны жанр самых вялікіх праведнікаў свету — Будды і Хрыста, якія паказалі чалавеку шлях да збавення. Васіль Быкаў, зразумела, не Хрыстос. Не падобны ён і на аўтараў большасці класічных рэалістычных прытчаў — незалежных ад мірскіх спраў мудрацоў ці вандроўных філосафаў. Але наш выдатны зямляк і сучаснік валодае незвычайным дарам відушчага анёла. Таму ў яго прыпавесцях бачыцца не толькі агульначалавечы вопыт, але і доля канкрэтнага народа, яго нацыі: "Збяднелы, апанураны, зняверены народ на выспе памалу забыўся пра свайго глуханямога апостала і тры ягоныя словы. І зноў стаў нямы. Той раз — назаўжды".

Сумныя думкі навяваюць творы Васіля Быкава. Раней у іх яшчэ бачылася зернейка надзеі, што разгоніць цемру і асвеціць беларусам шлях да Бацькаўшчыны. Цяпер агонь у начы амаль не відзён. Горка. Але — праўда. Французам хапіла аднаго Арадура, чэхам — Лідзіцэ, каб не дапусціць больш спусташальную пагібель на сваю зямлю. Беларусам жа, выходзіць, мала тысячаў Хатыняў і соцень Курапатаў...

Вынікі нашае Анкеты
з папярэдняга № газэты.
Вінцук Вячорка — 90%
Зянон Пазьняк — 10%.

Мікалай СКОРЫКАЎ:

КУЛЬТУРА

## "У МЯНЕ ЁСЬЦЬ ГОЛАС І СЯМ'Я. А ГЭТА — ШЧАСЬЦЕ!"

**— Мікалай, чым зараз напоўнена ваша жыццё?**

— Я б сказаў — мітуснёй, бо, акрамя спеваў, я вымушаны займацца многімі іншымі справамі. Я сам сабе і прадзюсер, і менеджэр. Таму, зразумела, на творчасць застаецца намнога менш часу, чым хацелася б. І ўсё ж я ўдзячны лёсу за тое, што працую ў выдатным калектыве пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга. Гэта дае мне магчымасць рэалізоўваць свае творчыя планы. Я і дасюль ганаруся, што два гады таму на сцэне Тэатра музычнай камедыі прайшоў мой бенефіс у двух аддзяленнях, дзе ў суправаджэнні аркестра я выканаў творы з рускай, еўрапейскай, амерыканскай песеннай класікі.

**— Чым абумоўлены гэты ваш зварот да песеннай класікі?**

— Гэтыя песні правераныя часам. У іх выдатныя мелодыі, выдатныя тэксты, дый яны мне проста падабаюцца. А яшчэ я атрымліваю вялікую асалоду, калі чую, што публіка ахвотна іх мне падпявае. Я выконваю гэтыя песні па-свойму, але адначасова імкнуся перадаць дух 60—70-х гадоў. І не толькі сваімі вакальнымі прыёмамі, а і стылізаваным каларытам аранжыровак. Заўважу, што не я адзін звяртаюся да твораў песеннай класікі, ёсць, напрыклад, такая праграма зорак расійскай эстрады — "Старыя песні пра галоўнае". Так што гэтыя песні — пэўная насталыгія па добрых мелодыях, глыбокіх тэкстах, якіх, я лічу, так не хапае ў нашыя дні.

**— Мне здаецца, што ўсё ж індывідуальнасць артыста вызначае яго рэпертуар, а не тое, што ўжо было праспявана раней і праспявана добра.**

— Я з вамі адначасова і згодзен, і не згодзен. Так, з аднаго боку, я лічу, што мне яшчэ не пашчасціла знайсці сваю песню, тую, якая б адпавядала маім патрабаванням, маёй сутнасці, вакальным і артыстычным магчымасцям. Гэта, як у свой час Яраслаў Еўдакімаў выканаў "Майскі вальс", які падхапіла ўся краіна, і да гэтай пары песня жыве і асацыіруецца толькі з яго асобай. Для мяне, на жаль, пакуль не напісалі такой песні, таму часткова я спрабую раскрыцца на добрым старым рэпертуары, тым больш, я лічу, што кожны артыст мае права на сваю інтэрпрэтацыю. А публіка мае права слухаць, параўноўваць. Наогул, старыя песні — гэта штосьці накшталт рамансаў, якія ў розных трактоўках гучаць дзесяткі гадоў і не становяцца менш каштоўнымі, наадварот, набываюць новае жыццё.

**— І ўсё ж ваш настойлівы зварот да класікі, магчыма, яшчэ абумоўлены сур'ёзнай кансерваторскай школай?**

— Безумоўна, заняткі ў кансерваторыі паўплывалі на мае густы.

**— Наогул, каб у вас не было кансерваторскай адукацыі, вы змаглі б рэалізаваць сябе як спявак?**

— Цяжка сказаць. Мне здаецца, што ў кожнага чалавека з самага нараджэння ўсё вызначана наперад. Мусіць, мне наканавана было стаць спеваком, бо спачатку я вучыўся іграць на баяне, нават скончыў музычную вучэльню. Потым пачаў спасцігаць азы вакалу, а ў выніку прыйшоў на прафесійную сцэну.

(Далей на 7-ай стр.)

# КАЛЕКТЫЎНЫ КАНКУРЭНТ ПАЗЬНЯКУ

## Віктар Івашкевіч

**адказвае на пытаньні карэспандэнта «НН»**



**— Прафэсар Шарэцкі й прафэсар Багданкевіч пакінулі Беларусь. Выглядае, што выезд апазыцыйных беларускіх палітыкаў за мяжу становіцца ледзьве ня правілам. Гэтак дойдзе і да стварэньня якогась новага эміграцыйнага ўраду...**

Віктар Івашкевіч: Ня бачу рэальнай патрэбы ў стварэньні такога ўраду. Ёсьць нармальныя магчымасьці — прынамсі, на сёньня — для змаганьня за дэмакратыю ў самой Беларусі. Пэрсанальна Шарэцкі, Багданкевіч, можа й Пазьняк маглі быць у нейкай небясьпецы — я гэтага ня ведаю. Іх выезд — іх асабістая справа. Але як палітыкі яны шмат страчваюць ад свайго ад'езду. У сёньняшніх беларускіх умовах палітыка — занятак рызыкоўнае. Чалавек павінен сьвядома ісьці на рызыку. Калі ён баіцца ісьці на рызыку, хай мяняе прафэсію. Хто хоча быць палітыкам, застаецца тут.

**— Вы гатовыя ісьці на рызыку?**

— Я ж не ад'яжджаю.

**— Хутка зьезд БНФ. Якім Вы бачыце сабе новы Фронт і кім Вы бачыце сябе ў ім?**

— Я бачу неабходнасьць зьмены кіраўніцтва і пераходу да маладзейшага і больш дынамічнага пакаленьня — Вячорка, Бяляцкі, я сам.

**— Якія пэрспэктывы яднаньня праэўрапейскіх сілаў у Беларусі?**

— На сёньняшні дзень няма праэўрапейскіх сілаў, ёсьць праэўрапейскія групы, якім трэба доўга ісьці да таго, каб стаць «сіламі». Ім трэба правесьці работу, каб стаць сіламі.

**— І што гэта можа быць за работа?**

— Прэса, структуры, кадры, грошы, плянамерная партработа, праца з грамадзкімі арганізацыямі. Пашырэньне інфармацыйнага поля шляхам уплыву на існуючыя сродкі масавай інфармацыі ды стварэньня новых — мэтады вядомыя.

**— Чаму ніводзін палітык у Беларусі ня езьдзіць зь вёскі ў вёску і з прахадной да прахадной ва ўмовах, калі фактычна ня мае доступу да сродкаў масавай інфармацыі?**

— Чаму няма доступу да сродкаў? Хто хоча, той стварае газэты — прыклад нашай газэты «Рабочий», якая існуе ўжо два гады й распаўсюджваецца накладам 100 тысяч. Ёсьць «Навіны», «Народная воля»...

**— Але ў іх зусім вузкая аўдыторыя.**

— Хто перашкаджае ствараць газэты для шырокай аўдыторыі? Проста нашы палітыкі любяць па-лукашэнкаўску скардзіцца, што ім «мяшаюць». Трэба проста браць і рабіць. Вось я выдаю газэту «Рабочий» і яшчэ 20 рэгіянальных выданьняў. Што, спадчыну атрымаў, ці што? Усё — у галаве. Як у фільме «Сталкер» — пакой, дзе выконваюцца жаданьні. Насамрэч у нашых палітыкаў няма жаданьня. У іх галава забітая кватэрамі, дачамі, навукай, літаратурай...

**— Навука, літаратура — гэта кепска?**

— Не, рэч у тым, што ўсе нашы палітыкі — палітыкі па сумяшчальніцтве. Яны навукоўцы, бізнэсмэны, літаратары. Яны думаюць у першую чаргу пра сваю першую працу, а не пра палітыку, таму палітыка ў іх і не атрымліваецца.

**— Вы робіце стаўку на рабочы рух. У той жа час некаторыя псыхолягі кажуць, што пралетары — самая паразытычная, апатычная і антыўласьніцкая група беларускага насельніцтва. Ці няма тут памылкі?**

— Самая апатычная, саўковая і антыўласьніцкая — наша інтэлігенцыя. «Ну, Віктар, калі твае рабочыя выйдуць на забастоўкі?» — кпліва спытаўся ў мяне адзін знаёмы. Гарантую: раней, чым ягоная навуковая інтэлігенцыя. Мірыцца з такімі мізэрнымі заробкамі, якія сёньня атрымліваюць унівэрсытэцкія работнікі, рабочыя ніколі б ня сталі. Затрымліваюць на паўмесяца заробак — тут жа страйк. Кожны тыдзень то тут, то там — страйк.

**— Але гэтыя страйкі нясуць у сабе станоўчы зарад ці гэта проста «дай-дай»?**

— Нясуць. Любое адстойваньне сваіх правоў — станоўчае. Любая ініцыятыва, накіраваная на згуртаваньне людзей, фармуе грамадзянскую супольнасьць. На сёньня рабочыя нашмат больш арганізаваныя, чым інтэлігенцыя. Яны саступаюць па самаарганізацыі толькі прадпрымальнікам з рынкаў, якія таксама ўваходзяць у Свабодны прафсаюз.

**— Чаму Вы ня маеце рэальнай сялянскай палітыкі, пры тым, што сяляне застаюцца самай беларускай групай насельніцтва? Вы ня верыце, што сяляне могуць стаць апірышчам нацыянальных сілаў у выпадку, калі нацыянальныя сілы будуць лабіраваць іх інтарэсы?**

— Ёсьць сялянства і ёсьць сялянства. Калі да беларускага заходняга сялянства можна падыходзіць з, напрыклад, балтыйскімі меркамі, дык сялянства ўсходняе — гэта не сялянства, а рабы, цалкам здэградаваная сацыяльная катэгорыя. Яно ня мае ніякай пазыцыі, як рабы. Абы не галадалі. Як яны будуць галасаваць, вырашае сёньня старшыня калгасу. У прынцыпе, было б лягічна працаваць са старшынямі калгасаў, тлумачачы ім, што лепей быць бел-чырвона-белым памешчыкам, чым чырвоным памешчыкам. Зараз усё болей ідуць размовы аб капіталізацыі калгасаў, аб ператварэньні іх у закрытыя акцыянэрныя таварыствы і скіданьні зь іх цяжару сацыяльнай дапамогі старым. Каб калгасы перайшлі ва ўласнасьць да старшыняў калгасаў і іхных сем'яў.

**— Гэта быў бы карысны крок?**

— Любая капіталізацыя — гэта крок наперад. Як пісаў Ленін, можа быць амэрыканскі шлях разьвіцьця, можа быць прускі шлях разьвіцьця. У нашай сельскай гаспадарцы, магчыма, трэба ісьці менавіта прускім шляхам разьвіцьця. Можа, Фронту й трэба правесьці спэцыяльную работу са старшынямі.

**— Вы прадстаўляеце інтарэсы работнікаў, але кажаце, што капіталізацыя — гэта дабро. Няма тут супярэчнасьці?**

— Прафсаюзы выступаюць за максымальную капіталізацыю. Бо толькі ў рынкавых умовах можна быць прадаўцом рабочай сілы і дабівацца добрай аплаты. На Захадзе ёсьць прадавец рабочай сілы, пакупнік рабочай сілы і дзяржава, якая кантралюе іх дачыненьні. Прафсаюзам выгадна, каб наймальнік і дзяржава былі рознымі суб'ектамі. Тады можна выкарыстоўваць дзяржаву ў змаганьні за свае інтарэсы. Змаганьне за памер зарплаты — рынкавая зьява. Што такое прафсаюзы — гэта людзі аб'ядноўваюцца, каб даражэй прадаць свой тавар, працу.

**— Ва ўлётцы, якая заклікала людзей на Кастрычніцкую плошчу, было 18 памылак. Гэта наўмысна?**

— Трэба пісаць граматна. Але побач з гэтым была й газэта «Народны прэзыдэнт» — я б яе паставіў на адзін узровень па цікавасьці з акцыяй Пушкіна. А ёсьць такія нудныя лістоўкі, кшталту «Народ, паўстань за сваю дзяржаўнасьць і мову». Гэты «плач Яраслаўны» пра тое, як нас тут б'юць, ужо набіў аскоміну на фуршэтах канфэрэнцыяў па правах чалавека.

**— «Народны прэзыдэнт» таксама пабудаваны на адмаўленьні. А дзе людзям гарантыя, што ёсьць стваральная праграма, апроч пераліку дзясятку даўно вядомых агульных пунктаў пра капіталізацыю і ўвядзеньне рынкавых адносінаў?**

— Праграма канкрэтных крокаў была дэтальна распрацаваная пад час прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году.

**— Гэта было 5 гадоў таму. З тых часоў, напрыклад, значна вырасла доля экспарту ў Расею.**

— Зараз яна зноў вяртаецца да 50/50. У Расеі ня плацяць, прадпрыемствы самі шукаюць збыту на Захадзе. У кардынальнай ступені нічога не зьмянілася. Нешта там стала горш, але спэцыялісты працуюць, улічваюць. Не праблема — выпрацаваць праграму. Працуюць ценявыя кабінэты, нацыянальны выканкам, куча недзяржаўных арганізацыяў. Праблема ў тым, як атрымаць гэтую ўладу. Фронт часта выслаўляецца тым, што «мы казалі, як трэба»... Людзі кажуць, чаму ж Вы не зрабілі, калі такія разумныя? Зараз трэба выпрацаваць мэханізмы прыходу да ўлады.

**— Калі б Вы сталі кіраўніком дзяржавы, якія былі б Вашы крокі на працягу першага тыдня?**

— Першае, трэба мяняць сымболіку. Гэта будзе сыгнал для інвэстараў і бізнэсоўцаў, што саўковая эпоха скончылася. Другое, неабходна спрасьціць сыстэму падаткаабкладаньня.

**— Вы ня зможаце зьмяніць падаткавую сыстэму за тыдзень.**

— Я не гавару пра першы тыдзень, я гавару пра некаторы час. Павінны быць адпушчаны цэны. Вернуты максымальна спрошчаны мэханізм стварэньня суб'ектаў гаспадараньня. Даць людзям магчымасьць зарабляць. Каб максымальна вялікую частку насельніцтва сьпіхнуць зь дзяржаўнай датацыі. А за адзін дзень нічога ня робіцца, нават сымболіку за адзін дзень не памяняеш — дыскусіі ў парлямэнце, галасаваньне зоймуць больш часу. За тыдзень можна толькі пачаць тыя накірункі працы. У абранага кіраўніка будзе запас даверу, насельніцтва ня кінецца зьвяргаць яго праз дзень.

**— Зьмены ў Беларусі адбудуцца выбарным шляхам?**

— Тое, што зьмена ўлады ў Беларусі скончыцца дэмакратычнымі выбарамі — гэта жалезна. Бо гэтага будзе патрабаваць Захад.

**— У незалежных расейскамоўных выданьнях часта адчуваецца паталягічная нянавісьць да БНФ. Гэта часовая зьява ці ўнутранае непрыманьне беларускага?**

— Тут ёсьць момант прэвэнтыўнай самаабароны, боязі, што беларускамоўныя прыйдуць да ўлады. Будучы пэрсанальна знаёмым з расейскамоўнымі журналістамі, я ўпэўнены, што гэтыя людзі — заходне арыентаваныя, і для іх галоўнае, каб былі свабода, дэмакратыя і эўрапейскі стыль. Аб'ектыўна яны будуць падтрымліваць Фронт, калі Фронт ня будзе пагражаць ім. Адзін з матываў таго, чаму незалежная прэса апошнім ча-

сам стала актыўней крытыкаваць апазыцыйных палітыкаў, — яна лічыць, што прыйшоў час палітыкам несьці адказнасьць за ўзятыя імі абавязацельствы. Як кажуць, узяўся за гуж... Калі Антончык кажа «выведу 15 тысяч» і не выводзіць, дык лепш не кажы. Гэтае распусканьне паўліных хвастоў — вельмі шкодная палітыка, бо яна паралізуе волю значнай часткі людзей, яны чакаюць цудаў ці то ад Шарэцкага, ці то ад кіраўніка страйкавага камітэту, замест таго каб самім працаваць. Таму павінна быць пакараньне за невыкананьне абавязацельстваў.

**— Тое, што Вы кажаце, Ваш канфлікт з Антончыкам, як і канфлікт у Фронце, чалавек збоку ўспрымае як грызьню.**

— У мяне няма канфлікту з Антончыкам. Лічу, што проста павінна быць адказнасьць за свае словы.

**— Чаму 21 ліпеня, як калісьці ў 1996-м, на чале дэманстрантаў не было палітыкаў?**

— А куды ішлі 21 ліпеня? Вось анэкдот, народжаны 21 ліпеня. Стаяць людзі зь пяці да шасьці. Раптам зьяўляецца чутка: усім ісьці да партшколы, бо там засядае Вярхоўны Савет. Людзі ад 50 да 30 год пытаюцца, а дзе тая партшкола? Людзі ад 30 да 20 пытаюцца, а што такое партшкола, якой партыі школа? Ідуць да плошчы Незалежнасьці, назад, блукаюць. Дзе ж тая партшкола? А, гэта ж камуністычная школа! Шарэцкі там выкладаў і вучыўся! Хто заклікаў на гэтую акцыю, хто яе ўзначальваў? Антончык? Ну, у газэтах было — Антончык? Во Вы ў яго спытайце, хто павёў і куды павёў.

**— А дзе былі лідэры БНФ?**

— Там былі, але як шараговыя, яны не арганізоўвалі акцыі, бо Фронт, заняты пытаньнямі ўнутранай будовы і аздараўленьня, згубіў ініцыятыву. А сябры Фронту, гэтыя 3 тысячы чалавек, ходзяць на любыя акцыі, хто б да гэтага ні заклікаў.

**— Пазьняк ня хоча вяртацца, Навумчык аддаў перавагу паплатной працы ў Празе, Заблоцкі, кажуць, абсеў недзе ў Бэльгіі, тут кіраўніцтва БНФ загрузла ў канкурэнцыі міжсобку і баіцца адкрыта ўстаць на чале акцыяў пратэсту. Пасьля гэтага звычайныя словы ўжо ня могуць аднавіць давер да Фронту. Якія справы могуць аднавіць давер?**

— Дзеяньні. Калі пачнуць узначальваць акцыі, тады будзе й давер. Шмат хто спадзяецца, што Фронт возьме на сябе ініцыятыву пасьля абнаўленьня кіраўніцтва. Вялікая частка насельніцтва будзе падтрымліваць Фронт пасьля таго, як ён стане актыўна дзейнічаць як непалітычная, а грамадзкая сіла. Недзяржаўныя арганізацыі, прафсаюзы, экалягічная барацьба. Як пры канцы 80-х, калі галоўнай была не палітыка, а Чарнобыль і гэтак далей.

**— Але тады быў Чарнобыль і Курапаты, а цяпер?**

— І цяпер Чарнобыль успрымаецца завострана. Сацыялягічнае дасьледаваньне па лініі лябараторыі «Новак» паказвае, што 80% насельніцтва незадаволеныя тым, што ў забруджанай зоне вырошчваюцца прадукты. Гэта палітыкі забылі пра гэта. Людзей цікавіць зарплата і здароўе. І тое, што я назваў — Івашкевіч, Вячорка, Бяляцкі — калектыўны канкурэнт Пазьняку. Вячорка ўзначальвае Асамблею няўрадавых арганізацыяў, Івашкевіч — Свабодныя прафсаюзы і выдае газэту, Бяляцкі — праваабарончы цэнтар і мае фонд падтрымкі магчымых рэпрэсаваных, чаго раней ніколі не было. Цяпер у выпадку ўсіх магчымых страйкаў і дэманстрацыяў, калі пасадзяць, звольняць, будзе людзям дапамога.

**— Гаворачы словамі Алеся Гаруна, што для Вас значыць: ісьці з народам «роўным ходам, к роўным зыскам, к роўным стратам»?**

— Плянуючы дасягненьне сваёй мэты, пабудову такой Беларусі, якая была б падобная на сучасную Чэхію, разумець, што гэта магчыма толькі пры падтрымцы большай часткі народа. Ні хітры пераварот, ні заходняя акупацыя, ні яшчэ што не дадуць магчымасьці стварыць тую эўрапейскую Беларусь, калі ня будзе падтрымкі насельніцтва.

**Гутарыў Андрэй Дынько**

# „Глыбоччына: пагляд у мінулае"

*Ніва*

21-23 чэрвеня ў Глыбокім адбывалася навукова-краязнаўчая канферэнцыя, якую ладзілі Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей і Глыбоцкае краязнаўчае таварыства „Спадчына". Апрача навукоўцаў і краязнаўцаў удзел у канферэнцыі прынялі глыбачане, якія зараз пражываюць у Польшчы. Глыбокае — гэта раённы цэнтр Віцебскай вобласці. Канферэнцыя не абмяжоўвалася сучаснымі межамі адміністрацыйнага падзелу. Да вайны межы Глыбоччыны былі крыху іншыя і само Глыбокае ўваходзіла ў Дзісненскі павет ІІ Рэчы Паспалітай. Выхад за сучасныя межы Глыбоцкага раёна даў уяўленне пра гісторыю гэтай зямлі, звязанай так блізка з Браслаўшчынай ці Віленшчынай.

Выступленні засяроджваліся галоўным чынам на гістарычных месцах, помніках архітэктуры і вядомых постацях, звязаных з рэгіёнам. Успаміналіся часта ўладальнікі Глыбоччыны з родаў Корсакаў і Зяновічаў, глыбачане — папулярны ў міжваенны перыяд пісьменнік Тадэвуш Далэнга-Мастовіч, аўтар „Знахара" і беларускі дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі (1891-1959), мастак Язэп Драздовіч (1888-1954), народжаны ў засценку Пунькі, а пахаваны ў Ліплянах. Пра свайго бацьку Аляксандра ўспамінаў Аляксандр Сабалеўскі з Масквы. Аляксандр Сабалеўскі быў беларускім дзеячам у перыяд БНР у Мінску, працаваў у педагагічным інстытуце разам з Вацлавам Іваноўскім. Савецкія ўмовы жыцця прымусілі яго ўцякаць у Глыбокае. У памяці мясцовых жыхароў па сённяшні дзень захаваўся доктар Гушча, які жыў у Малым Дворку каля Глыбокага. Зараз яго жонка (103 гады) і дачка жывуць у Беластоку. На канферэнцыю прыехала ўнучка Мар'я, якой удалося сустрэць старажылаў, памятаючых яе дзеда як нязвыклага дабрадушнага чалавека. Падарыла яна Глыбоцкаму музею сямейныя памяткі. Доктар Гушча быў зняволены ў Беразвеччы, непадалёк Глыбокага ў час савецкай акупацыі 1939-1941 гг. Даўні базыльянскі кляштар, перла віленскага барока, служыў для НКВД вязніцай. Савецкія ўлады трымалі там глыбоцкую і навакольную інтэлігенцыю. 24 чэрвеня 1941 г. шмат вязняў супрацоўнікі НКВД пастралялі, а апошніх пагналі ў напрамку Улы. Міхал Раговіч, якому ўдалося перажыць бярэзвецкае пекла, так успамінаў той дзень: „24 czerwca 1941 r. o drugiej rano zbudzono nas i kazano zabierać się z rzeczami, wychodzić na dziedziniec klasztorny. Posadzono wszystkich na ziemi, otoczono nas kordonem uzbrojonych drabów z psami. Mieli duże karabiny z bagnetami. Psy ujadały, niektóre miały siatki na pyskach, niektóre były bez kagańców. W tłumie więźniów znajdowały się kobiety, księża, zakonnicy, oficerowie, nauczyciele, lekarze, adwokaci — przeważnie inteligencja. Mimo że wszystko odbywało się po cichu i w tajemnicy, wiedzieliśmy, że zaczęła się wojna i dlatego mają nas wywieźć. Dokąd — nikt tego nie przewidywał. Nie dano nam jeść ani pić, oczekiwaliśmy nieznanego" (K. Popiński, A. Kokurin, A. Gurjanow, *Drogi śmierci. Ewakuacja więzień sowieckich z Kresów Wschodnich II Rzeczypospolitej w czerwcu i lipcu 1941*, Warszawa 1995, s. 65).

У спешцы расстрэлы пачаліся яшчэ на месцы. Спадарыня Хрысціна Мількевіч была тады дзіцём і памятае, што побач іх жыў адзін энкавэдыст, які пасля пагрому вярнуўся п'яны дадому і крычаў, што сам асабіста забіў 30 асоб.

Падчас нямецкай акупацыі таксама там знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер. На працягу 1941-1944 гг. было там знішчана каля 27 тысяч савецкіх і каля 200 італьянскіх ваеннапалонных. Зараз у кляштарных будынках далей знаходзіцца турма. Нічога не напамінае, што гэта помнік архітэктуры. Да таго каля 1970 г. савецкімі ўладамі быў знесены беразвецкі храм — шэдэўр еўрапейскай архітэктуры. Зараз копія беразвецкага касцёла знаходзіцца ў Беластоку пры вул. Канстытуцыі 3 Мая.

Першы раз пасля звыш 50 гадоў у Глыбокае прыехаў Вальдэмар Варніцкі, які жыве каля Жыўца, у Радзехонах. „Глыбокае надта змянілася. Nie poznaję", — казаў. Сярод глыбачан былі таксама Мар'я Якубоўска з Могельніцы, якой бацька быў расстраляны НКВД у 1941 г., Каміль Кшэміньскі з Вроцлава, які цікавіцца гісторыяй школьніцтва у былым Дзісненскім павеце; Міхал Вазгірд з Торуні, хімік, даследчык біяграфіі Т. Далэнгі-Мастовіча. І паколькі была гэта краязнаўчая канферэнцыя, удзельнікі наведалі Глыбоцкі гістарычна-этнаграфічны музей. Ёсць там месца адведзенае К. Дуж-Душэўскаму, Я. Драздовічу і яго карцінам. Працуюць там маладыя энтузіясты краязнаўства. У гарадскім цэнтры культуры якраз знаходзілася фатаграфічная выстаўка „Глыбокае ўчора і сёння". Сумнае сёння. Тое, што было цікавае — страчанае. Прыйшлося пазнаёміцца з Уладзімерам Скрабатуном — аўтарам кніжкі „Глыбокае на старых паштоўках", выдаўцом газеты „Вольнае Глыбокае". Кніга пра Глыбокае настолькі цікавая, што зараз здабыць яе немагчыма. Проста разышлася. Таму і не адбылася запланаваная прамоцыя, бо не было чаго прапагандаваць. Узгадвалася, што добра было б перакласці яе на польскую мову, выдаць яшчэ раз.

Апрача У. Скрабатуна ў канферэнцыі ўдзельнічалі апантаныя краязнаўцы і фанаты мясцовай гісторыі: Язэп Бунто з Глыбокага, Вітаўт Ермалёнак з Міёраў, Язэп Зямчонак з Пастаў, Кастусь Шыдлоўскі з Браслава, Кліменцій Кожан з Германавіч.

У наваколлі Глыбокага наведалі мы таксама касцёл у Мосары, у якім служыць літовец ксёндз Юозас Булька. Вельмі цікавае наваколле касцёла, перад якім святар разбіў парк. У касцёле захоўваюцца рэліквіі св. Юстына. У недалёкай Пятроўшчыне ўдзельнічалі мы ў імшы для гасцей з Польшчы. Капліца ў Пятроўшчыне — гэта былы дзіцячы сад. Набажэнствы адбываліся, як гэта звычайна ў Беларусі бывае, на польскай мове, а спевы — на беларускай.

Паездку ў Глыбокае з Гародні арганізаваў прафесар Андрэй Майсяёнак, старшыня Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Сам па паходжанні глыбачанін шмат сэрца ўклаў, каб канферэнцыя была цікавая і аб'ёмістая па ліку тэмаў. Па дарозе з Гародні ў Глыбокае наведалі мы руіны замка ў Гальшанах і тамашні школьны музей, якім кіруе Эдуард Корзун. Не абмінулі таксама руінаў замка ў Крэве.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

(Працяг з 5-ае стр.)

**— Спасцігалі вакальнае майстэрства, напэўна, выкананнем рамансаў? Магчыма, у мэтах падтрымкі вакальнай формы і зараз не забываецеся на іх?**

— Так, канешне, але тое, як я выконваў іх тады і як спяваю зараз, — як кажуць, дзве вялікія розніцы. За гэтыя гады я многае перажыў, адчуў і радасць сапраўднага кахання, і пэўныя расчараванні, дый вопыт бацькоўства наклаў адбітак на ўспрыманне свету. Таму разам з жыццёвай мудрасцю з'яўляюцца новыя фарбы ў голасе, узбагачаецца выканальніцкая палітра.

**— Наогул, мне здаецца, каб удыхнуць нешта новае ў выкананне старадаўняга раманса, трэба адчуваць нешта асаблівае, сэрца павінна поўніцца каханнем... Ці я памыляюся?**

— Канешне, каханне стымулюе творчасць, надае выкананню асаблівую адухоўленасць, але ж сапраўдны артыст павінен умець кіраваць сваімі эмоцыямі, каб не быць іх заложнікам. Моцнае пачуццё разам са стваральнай сілай нясе разбуральную. Таму, у першую чаргу, для артыста важна валодаць тым жа майстэрствам пераўвасаблення.

**— І ўсё ж закаханасць уласціва многім артыстам.**

— Я б сказаў, што не толькі артыстам. Але сапраўды, асаблівасці прафесіі прымушаюць быць у цэнтры ўвагі. Поспех акрыляе, хвалюе, выклікае жаданне падабацца і нават жаданне захапляцца самому. Але ж падкрэслю, што для мяне закаханасць і каханне зусім розныя рэчы...

**— Вы адчуваеце сябе шчаслівым чалавекам?**

— Так, я думаю, што я шчаслівы, нягледзячы на нейкія жыццёвыя нелады, на тое, што калі-нікалі збіваюся ў бок на жыццёвым і творчым шляху, адхіляюся ад мэты. Усялякае бывае, але я ўдзячны лёсу за тое, што ў мяне ёсць голас, сям'я, магчымасць цікава працаваць.



**— І ўсё ж галоўнае адчуванне шчасця ў тым, што вы займаецеся творчасцю альбо ў напоўненасці асабістага жыцця?**

— Ведаеце, амаль для кожнага мужчыны галоўнае ў жыцці —праца. Я — не выключэнне, хаця гэта, можа, і не зусім падабаецца маёй жонцы. Але ж сэнс работы не толькі ў сваёй творчай рэалізацыі, а і ў тым, каб проста забяспечыць сям'ю матэрыяльна. Я лічу гэта нармальным абавязкам мужчыны.

**— Зараз вы перажываеце спакойны перыяд жыцця? Усё складваецца гарманічна, без супярэчлівасцей?**

— Я б адказаў словамі паэта "И вечный бой, покой нам только снится". Так, магчыма, я дасягнуў нейкай творчай планкі, жыццёвага дабрабыту, але, думаю, што ўсё галоўнае — наперадзе. Некалькі апошніх гадоў для мяне як для спевака былі ўдалымі, і я не хачу губляць гэтае адчуванне ўдачы, многа працую і спадзяюся хутка рэалізаваць некалькі, на мой погляд, цікавых ідэй.

**— Калі жыццё гэта бой, дык мне застаецца пажадаць вам ва ўсіх сітуацыях — і жыццёвых, і творчых — заставацца пераможцам.**

**Таццяна ЯКУШАВА**



Масей СЯДНЁЎ (ЗША)

*ПОГЛЯД*



# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА І ПЫТАНЬНЕ МІЖДЗЯРЖАЎНЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ

З надыходам перабудовы і з абвешчаньнем беларускай самастойнай дзяржавы наступіла значнае ажыўленьне на фронце нацыянальнай палітыкі, асабліва ў пытаньні беларускай дзяржаўнасьці. Вядучую ролю тут заняў Беларускі Народны Фронт /БНФ/ на чале з Зянонам Пазьняком. Фронт гэты аднак не набраў сілы, каб быць фронтам, дзеля вузкасьці свае палітыкі, апрыёры разьлічанай на канфрантацыю, а не на супрацоўніцтва з парлямэнтам. Прыгадаем выступленьні Фронту супраць Шушкевіча, тадышняга старшыні Вярхоўнага савету. У БНФ ня было пасутнасьці канструктыўнай праграмы, творчага ў ёй пачатку. Праграма Фронту была голай, калі не лічыць дэклярацыйнасьці пра незалежнасьць і самастойнасьць Беларусі. Але мы аддамо яму тут належнае — ён сьмела і прынцыпова ўзьняў пытаньне беларускай дзяржавы, паставіў яго, як гавораць, рубам. Што-ж тычыцца пытаньня міждзяржаўных дачыненьняў, дык БНФ гэтага пытаньня пасутнасьці не ставіў, праўда адразу-ж заняў войструю антырускую пазыцыю ў дачыненьні да Расеі. Можна нават сказаць, што антырускасьць — гэта дамінанта нацыянальнай палітыкі БНФ. Зрэшты, гэта дамінанта і палітыкі іншых апазыцыйных партыяў і аб'яднаньняў у сучаснай Беларусі. Назіраецца аднабаковая зададзенасьць гэтых партыяў і аб'яднаньняў. Гэтая зададзенасьць і адрэзала гэтыя партыі, і перш за ўсё БНФ, ад шырэйшай падтрымкі іх з боку беларускага грамадзтва. Антыруская палітыка БНФ аніяк ня ўлічвала рэальнай сытуацыі ў Беларусі. Бож сёньня, як-бы гэтага мы ні хацелі, нельга выклікаць моцных антырускіх настрояў у пераважнай бальшыні беларускага насельніцтва дзеля глыбокай асыміляцыі гэтага насельніцтва, дзеля моўных, этнічных і іншых фактараў. Ня дзіва, што антыруская палітыка БНФ не дала жаданага плёну, працавала і працуе на парожнім ходу. Наогулжа на "анты" — ці то на антырускасьці, ці то антыпольскасьці — нельга пабудаваць беларускай дзяржаўнасьці. У нашых партыяў няма сур'ёзнай праграмы міждзяржаўных дачыненьняў, у прыватнасьці зусім не распрацавана, так-бы мовіць, "рускае пытаньне". Калі ў дачыненьні нашага заходняга суседа — Польшчы — апазыцыйныя партыі, і ў першую чаргу БНФ, хоць і цьмяна, неяк акрэсьлілі свае дачыненьні, дык у дачыненьні ўсходняга суседа — Расеі — няма нават спробы акрэсьліць гэтыя дачыненьні. З гэтым усходнім суседам вядзецца нешта накшталт халоднай вайны. Гэты сусед разглядаецца як галоўная перашкода на шляху пабудовы беларускай дзяржаўнасьці, і што пакуль ён існуе, ён будзе пагрозай для беларускай дзяржавы. Усё гэта бадай так. Але прыгадайма палітыку ЗША ў дачыненьні Савецкага саюзу падчас халоднай вайны. Нават падчас халоднай вайны ЗША ня раз спрабавалі дамовіцца з СССР па тых ці іншых пытаньнях. Вось-жа ў сваёй нацыянальнай палітыцы мы ня можам ігнараваць "рускага пытаньня", рускай праблемы. Яго аніяк нельга абыйсьці, яно непасрэдна ўпіраецца ў сьвятое сьвятых нашай дзяржаўнасьці. Ад яго пасутнасьці залежыць быць ці ня быць нашай дзяржаве. Дэюрэ Беларусь — самастойная дзяржава, але да сапраўднай, фактычнай самастойнасьці яшчэ далёка. Залежнасьць Беларусі ад Расеі вялікая. Разводу з ёю яшчэ не адбылося. Гэта цяжкі і складаны працэс. Апазыцыйныя партыі мусяць не байкатаваць яе, а пачаць з ёю сур'ёзныя, дзелавыя перамовы. Тут гаворка ідзе ня гэтулькі пра гаспадарчыя дачыненьні, хоць гэта таксама важная галіна, колькі пра гарантыю самастойнасьці і цэласнасьці Беларусі. Цяперашні саюз з Расеяй аніяк не гарантуе сувэрэннасьці Беларусі. З Расеяй мусіць быць дасягнутае такое палітычнае пагадненьне, якое-б гарантавала гэтую сувэрэннасьць.

Ня лёгкім пытаньнем зьяўляецца і пытаньне культурных, навуковых і іншых сувязяў з Расеяй: такія сувязі зноў-жа набываюць палітычнае значэньне. Тут перш за ўсё насоўваецца пытаньне рускай мовы, менавіта рускай мовы ва ўмовах цяперашняй Беларусі. Мы не гаворым тут пакуль пра беларускую мову. Скажам толькі, што ніякая іншая, а толькі беларуская мова мусіць быць адзінай дзяржаўнай мовай у Беларусі. Дзяржаўнае, як цяпер, двумоўе недапушчальнае і шкоднае. На гэты конт ня можа быць іншага пагляду. Але мы пакуль ня можам расквітацца і з рускай мовай. Мы ня можам аб'явіць яе замежнай мовай накшталт ангельскай, нямецкай ці якой іншай мовай, як гэта часам робяць некаторыя апазыцыйныя палітыкі. Для беларуса руская мова не замежная ня толькі што яна лінгвістычна блізкая нам. На гэтай мове асвоены сусьветныя дасягненьні чалавечай дзейнасьці; у галіне навукі, культуры, мастацтва, філасофіі і гэта ўсё даступна сёньня беларускаму навучэнцу. Цяперашняе пакаленьне беларусаў фактычна атрымала адукацыю на рускай мове. Патрэбна шмат часу і высілкаў, каб у сувэрэннай Беларусі быў завершаны на беларускай мове працэс асваеньня сусьветных здабыткаў у розных галінах ведаў. А пакуль нам давядзецца карыстацца і паслугамі рускай мовы. Гэта не апалягетыка рускай мовы, як гэткай, а практычная патрэба. Беларуская-ж мова, як мова дзяржаўная, мусіць стацца сапраўды дзяржаўнай: ва ўсіх галінах дзяржаўнай дзейнасьці беларуская мова мусіць быць абавязковай, пануючай мовай. У навучальных установах, у школах беларуская мова мусіць быць ня госьцяй, а навучальнай мовай. Беларуская нацыя мусіць вярнуцца да мовы сваіх продкаў і такім чынам набыць сваё нацыянальнае аблічча. Мы мусім гаварыць па-беларуску, мусім вярнуцца, як тыя ірляндцы, да свайго кораня.

Антыруская палітыка апазыцыі завайстрыла да скрайнасьці моўнае пытаньне ў Беларусі і, як мы схільны думаць, справакавала мэмарандум адносна рускай мовы. Ня толькі рускія, што жывуць у нашай дзяржаве, а і самі беларусы, прынамсі адукаваная іх частка, угледзелі пагрозу для рускай мовы, пагрозу раптоўнага і татальнага выдаленьня яе з ужытку. Была тут і неасьцярожнасьць творцаў Закону аб мовах — яны не ўлічылі складанасьці моўнай сытуацыі ў Беларусі. Мэмарандум прычыніў сьмяртэльную шкоду беларускай мове — руская мова набыла статус, роўны беларускай мове, фктычна падмяніла беларускую мову.

Але на гэтым не канец. Час уладжвае ўсё. Толькі на час трэба працаваць. Самаахвярна. Аддана. Тады і наступіць час сапраўднага адраджэньня беларускай нацыі. У падмурку беларускай дзяржаўнасьці будзе і цаглінка закладзеная працай людзей, якіх мы сёньня тут крытыкуем.

## БЕДНЫЯ, БО ЗАБЫЛІСЯ, ШТО БЕЛАРУСЫ

Таварыства Беларускай Мовы імя Франьцішка Скарыны распаўсюдзіла **Зварот** да беларускіх рабочых. У Звароце наўпрост выказаная думка пра тое, што на чыёй мове ты гаворыш, той краіне і ідзе даход ад тваё працы. Калі задумацца, дык яно так і выходзіць. Гаворыш па-расейску — непасрэдна расейскім інтарэсам і служыш, умацоўваеш Расею, тады як сам жывеш бядней. Думаеш, што гэта ня так, што і тут, у нас — Расея? А вось-жа гэта вялікі падман. Пачытай зварот ТБМ:

«Мы зьвяртаемся да ўсіх вас разам і да кожнага пэрсанальна: да цябе — сьлесар і да цябе — электрык; да вас — рамонтнікі, наладчыкі, зборшчыкі; і да вас — будаўнікі, чыгуначнікі, шахцёры; мы зьвяртаемся да тых, хто сёньня стаіць ля станка і штурвала ці сядзіць перад экранам кампютара, хто сваёй працай стварае дабрабыт народу, краіны і свой асабісты, але з кожным працоўным днём не багацее, а наадварот, становіцца ўсё больш і больш бяднейшы. Так будзе да таго часу, пакуль вы ня ўспомніце, што вы — беларусы і што жывяце ня дзе-небудзь, а тут — у Беларусі.

Паглядзіце на летувісаў, эстонцаў, палякаў, чэхаў ды іншыя народы, якія 10 гадоў таму былі аднолькавыя з беларусамі жабракі. Але цяпер яны з кожным днём багацеюць, а беларусы — бяднеюць. Чаму? А таму што яны жывуць і працуюць на сваёй роднай мове, а значыць — для сябе і сваіх народаў.

Беларускую мову ўлада выгнала са школаў, фабрык і заводаў для таго, каб вашы дзеці і вы не адчувалі сабе гаспадарамі сваёй зямлі, а вынікі вашай працы каб належалі ня вам, а суседу, на мове якога вам цяпер вызначылі жыць і працаваць.

Дарагія Сябры!

Вяртаньне да роднай мовы — гэта шлях да незалежнасьці, а значыць — шлях да вашага дабрабыту. Жывіце, працуйце, размаўляйце, вучыце сваіх дзяцей па-беларуску, патрабуйце гэтага ад свайго начальства і ад уладаў Беларусі!»

Масей Сяднёў

## ІДЗЕ ПА БЕЛАРУСІ СПАС



Каб ісцаліць ад скверны
зьняверaных нас,
строгі і міласэрны
ідзе па Беларусі Спас.

Ён рызай нябеснай агорне
Беларусі пастаць.
На Прычасьця палымяным горне
будзе душы нашыя гартаваць.

Пройдзе па нашай дзяржаве
Лекарам дбайным Ён.
На цэрквах замоўклы, іржавы
абудзіцца радасьцяй звон.

Схамянецца ў Божым дусе
наш народ, і ў шчасны час
над чарнобельскай Беларусяй
распастрэ далоні Спас.

Бласлaвіць яе зорнае Прыйсьце,
ськіне цяжар акоў.
Прагалосіць: "Ныне і прысна
і на векі вякоў".

16 жніўня 1999,
Глен Коў, ЗША

«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»
чакае Вашае ахвяры
на
ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!




Назвы некаторых беларускіх выданьняў, якія публікуюцца паза межамі Беларусі...

**Зьміцер Бандарэнка,** сябра аргкамітэту **Хартыі-97**

# СТАНЬ ПОБАЧ

**Нягледзячы ні на што, беларуская апазыцыя застаецца адным з самых моцных эўрапейскіх дэмакратычных рухаў, якія змагаліся з дыктатарскімі рэжымамі ў пасьляваенны час.**

## Канец камунізму

Неаднаразова даводзілася сутыкацца з меркаваньнем, што апазыцыя на Беларусі слабая, раз'яднаная і нічога сур'ёзнага дыктатуры супрацьпаставіць ня можа. Яшчэ пару год таму сам прытрымліваўся падобнага погляду. Аднак сустрэчы з дзеячамі эўрапейскіх антытаталітарных рухаў радыкальна зьмянілі ацэнку моцы беларускай апазыцыі. Сёньня я перакананы ў тым, што беларускія дэмакратычныя сілы зьяўляюцца нармальнай здаровай часткай адзінага эўрапейскага дэмакратычнага руху.

Зараз ва ўсім сьвеце адзначаюць дзесяць гадоў развалу камуністычнай імпэрыі ў Эўропе — перамога "Салідарнасьці" і вэнгерскіх дэмакратаў на выбарах у свае парлямэнты; разбурэньне бэрлінскай сьцяны; "аксамітная" рэвалюцыя ў Чэхаславакіі; рэвалюцыя ў Румыніі і расстрэл Чаўшэску. Гэтыя падзеі назаўсёды зьнішчылі чырвоны колер з мапы Цэнтральнай Эўропы. Сыстэма, якая існавала дзесяцігодзьдзі, рухнула амаль у адначасе. Сытуацыя ў краінах, дзе ў 89-м годзе адбыліся антытаталітарныя рэвалюцыі, была вельмі стракатай. Але амаль паўсюль яе вызначалі апазыцыйныя рухі і групы. Паспрабуем параўнаць іх з сучаснай беларускай дэмакратычнай апазыцыяй.

## Калі-б Папам быў беларус...

Да вядомых падзеяў у Румыніі пра апазыцыю Чаўшэску нічога ня было чутно. Большасьць аналітыкаў і сёньня не ўзгадваюць пра нейкі апазыцыйны румынскі рух. Пануе думка, што да зьмены рэжыму ў Бухарэсьце прыклалі руку спецслужбы як Захаду так і Ўсходу. Яны зрабілі стаўку на групу незадаволеных праўленьнем клану Чаўшэску румынскіх гэнералаў і партыйных намэнклятуршчыкаў.

Я быў вельмі зьдзіўлены, калі даведаўся ад Яна Ўрбана, аднаго з лідэраў чэхаславацкай Хартыі-77, што ў канцы 80-х гадоў у 15-ці мільённай краіне актыўна дзейнічалі 60 дысыдэнтаў і каля 500 іх прыхільнікаў. Мой шок быў выкліканы тым, што куміры з Хартыі-77 у той час былі слабейшымі за нас — сёньняшніх беларускіх дэмакратаў. Урбан таксама распавёў, як у ліпені 1989 году да іх прыехаў Адам Міхнік, які ўжо стаў дэпутатам Сойму. Чэхі сьмяяліся з прадказаньня героя польскай "Салідарнасьці", што ўжо праз год у Празе нельга будзе ўбачыць ніводнай чырвонай зоркі: "Тут — ня Польшча! Мы не палякі!" А ўжо праз чатыры месяцы чэхаславацкія дысыдэнты фармавалі кааліцыйны ўрад.

Сіла апазыцыі складаецца з двух фактараў: **моцы дыктатуры**, той брутальнасьці, якую яна можа сабе дазволіць у адносінах да сваіх грамадзянаў і **актыўнасьці самой апазыцыі**, якая залежыць ад унутранай падтрымкі і міжнароднай салідарнасьці. Таму магу сьцьвярджаць, што беларускія апазыцыянеры мацней за сваіх калегаў з колішняй ГДР. Там дзейнічала ўсёвідушчая "Штазі", якую прызнавалі адной з лепшых спецслужбаў сьвету, і якая мела дасье на кожнага ўсходненямецкага жыхара. Апазыцыйныя рэжыму Хонэкера групы і марыць не маглі пра рэгулярнае правядзеньне шматтысячных забароненых акцыяў пратэсту і маніфэстацыяў кшталту нашага "Чарнобыльскага шляху", правядзеньне якіх беларускія ўла ды вымушаны дазваляць.

Хутчэй за ўсё, сёньняшняя беларуская апазыцыя саступае толькі тагачасным польскай "Салідарнасьці" і дэмакратычнаму руху Вэнгрыі. Але нельга забываць, што істотную, а можа вырашальную падтрымку вэнгерскай апазыцыі аказаў яе зямляк Джордж Сорас. А палякі акрамя дапамогі Сораса і амэрыканскіх прафсаюзаў мелі духоўную, што яшчэ важней, падтрымку Папы Яна Паўла II. А шмат хто кажа, што ня толькі Польшча, але і ўся Эўропа абавязана збаўленьнем ад камуністычнай пагрозы першаму польскаму пантыфіку. Беларусы-каталікі толькі зараз займелі свайго кардынала. Фактычна дзяржаўнай на нашай зямлі і сёньня застаецца памесная царква іншай краіны.

Аднак, саступаючы ў масавасьці польскаму і вэнгерскаму рухам, беларускія дэмакраты і на іх фоне выглядаюць прыстойна. 50-тысячны "Чарнобыльскі шлях-96", сэрыя шматтысячных акцыяў у вясну 1997 году, штогадовыя масавыя сьвяткаваньні Дзён Канстытуцыі, Волі і Незалежнасьці, 110 тысяч подпісаў пад Хартыяй-97, шырокая палітычная кампанія па выбарах прэзыдэнта, выхад 5 тысяч чалавек 21-га ліпеня на Цэнтральную плошчу, нягледзечы на забарону і запалохваньні ўладаў — усё гэта дэманструе сьвету, што на Беларусі дзейнічае моцная, добра арганізаваная апазыцыя.

## Дэмбель непазьбежны

Гісторыя паказвае, што абсалютная большасьць эўрапейскіх народаў аддалі перавагу дэмакратыі. Дыктатуры ў Эўропе сталі недарэчным выключэньнем. Апошнія два дыктатарскія рэжымы Мілошавіча і Лукашэнкі абавязкава ляснуць у бліжэйшы час. Чым выклікана затрымка?

З сэрбамі ўсё зразумела — мясцовая апазыцыя не вытрымала спакусы вялікасэрбскага шавінізму, дзеля якой пайшла на хаўрус з Мілошавічам. Аднак пасьля Косава сэрбскія дэмакраты зрабілі высновы і, заручыўшыся падтрымкай Захаду, ініцыятыву ўжо ня страцяць.

Галоўная праблема Беларусі ў тым, што да апошняга часу пра нас у сьвеце мала хто чуў. Захад заўсёды ведаў, што палякі прагнуць збаўленьня ад камунізму і расейскай апекі. Выступленьні польскіх рабочых і студэнтаў адбываліся на працягу дзесяткаў гадоў. У вэнграў быў 56-ы год, у чэхаў — 68-ы. Краіны Балтыі не прызнаваліся дэ-юрэ савецкімі з-за пакту Молатава-Рыбэнтропа. Сотні ўкраінскіх патрыётаў і праваабаронцаў у савецкія часы былі прызнаныя Вязьнямі Сумленьня. Пра дэмакратычную апазыцыю на Беларусі, Захад нічога ня чуў не ў 70-я, не ў 80-я гады. У вачах цывілізаванага сьвету беларусы не заслужылі сваёй Свабоды і Незалежнасьці.

Дрэнную службу саслужыў нам і наш ранейшы назоў на замежных мовах. "Белыя расіяне" — так успрымалі нас да апошняга часу ў сьвеце. Мне здаецца, што розьніца ў падыходах да нашай краіны з боку палітыкаў ЗША і ФРГ тлумачыцца менавіта гэтым. Амэрыканская палітычная эліта ўспрымае нашу дзяржаву як Belarus, немцы-ж, як няхай і Белую, але частку Расеі — Weissrusland.

"Чорны прамоўшан" Беларусі зрабілі Чарнобыль і Лукашэнка. Цяпер у сьвеце нас ведаюць. А дзейнасьць апазыцыі паказвае, што зыход дыктатуры толькі справа часу.

## Калі мы пераможам?

Можна запярэчыць, што беларуская апазыцыя сёньня слабейшая, чым у 1991-м годзе, калі дэмакраты самі згубілі перамогу. Адзін з лідэраў беларускіх падпольных групаў Віктар Івашкевіч добра растлумачыў, чаму так сталася: "У пачатку 80-х мы марылі, што калісьці гадоў праз трыццаць камунізм разваліцца, Беларусь стане самастойнай дзяржавай. У 91-м нечакана ўсе мары спраўдзіліся: аб'яўлена незалежнасьць, кампартыя забаронена, над Домам Ураду лунае бел-чырвона-белы сьцяг". Гэта быў вырашальны момант, трэба было неадкладна браць уладу. Але фронтаўскія рамантыкі замешкаліся. І рэваншысты часова перамаглі.

Усе ўзгаданыя дэмакратычныя рэвалюцыі ў Эўропе адбываліся па падобных сцэнарыях. Агульнае ў іх наступнае:

— моцныя эканамічны і палітычны крызісы;

— эканамічныя санкцыі супраць рэжыму, палітычны ціск на яго з боку дэмакратычных краінаў;

— асноўныя падзеі адбываюцца ў буйных гарадох;

— вырашаецца ўсё ў сталіцы, калі на вуліцы выходзіць больш за сто тысяч незадаволеных грамадзянаў;

— абсалютная большасьць пераможных рэвалюцыяў адбываецца восеньню.

Надыходзячая восень можа стаць вырашальным выпрабаваньнем, як для ўладаў, так і для прыхільнікаў дэмакратыі на Беларусі і, асабліва, у Менску. Нагадаю, што Лукашэнка ў першым туры прэзыдэнцкіх выбараў набраў у сталіцы 22% галасоў (сёньня яго рэйтынг у Менску — 24%), за Шушкевіча і Пазьняка разам аддалі галасы 43% менчан (сёньня па сацыялягічных дадзеных, каля 45% жыхароў сталіцы зьяўляюцца цьвёрдымі праціўнікамі былога ППРБ).

Ведаючы фінал Чаўшэску, які не аб чым не хацеў дамаўляцца, Лукашэнка, як раней Ярузельскі, Кадар, Гусак, вымушаны ісьці на перамовы з апазыцыяй. Яго сытуацыя яшчэ горшая. Ён страціў легітымнасьць. Шанцы беларусаў на пазытыўныя зьмены як ніколі высокія. Адказнасьць сёньня кладзецца як на апазыцыю, так і на "ціхіх" праціўнікаў дыктатуры, якіх толькі ў Менску каля 800 тысяч чалавек. Пад час перамоўнага працэсу неабходна дапамога вуліцы.

Апошнім часам істотна зьмяніліся мае стасункі з сябрамі і знаёмымі. Раней яны — прадпрымальнікі, акторы, выкладчыкі — часьцяком хлопалі мяне на плячы і зьедліва пыталіся: "Ну што, апазыцыя, калі пераможаце?" Прадпрымальнікі вярталіся з адпачынку на Канарах; акторы былі ўпэўненыя, што ўсё будзе, як у добрыя савецкія часы, калі можна было трымаць фігу ў кішэні і атрымліваць 500 рублёў ад дзяржавы за прыналежнасьць да культурнай эліты; выкладчыкі спадзяваліся, што дацэнт унівэрсытэту заўсёды здолее забясьпечыць сям'ю. І хоць усе яны прыстойныя людзі, цьвёрдыя "заходнікі" і ненавідзяць дыктатуру, мне, як апазыцыянеру, даводзілася больш адмоўчвацца.

Але прайшоў час. Прадпрымальнікі шэптам абмяркоўваюць каго з калегаў-бізнэсмэнаў пасадзілі, а ў каго толькі арыштавалі рахунак фірмы і забралі маёмасьць. Артысты, падпрацоўваючы, дзе толькі магчыма, атрымліваюць на рукі чэсна заробленыя 30 даляраў. Некаторыя з выкладчыкаў кінулі настаўніцкую навуку і вымушаныя зарабляць ізвозам.

Цяпер я ўжо не маўчу, калі нападаюць на Шарэцкага ці Грыба. Беларускія апазыцыянеры, дэпутаты Вярхоўнага Савету, лідэры апазыцыйных партыяў і рухаў, шараговыя актывісты, журналісты незалежных выданьняў сёньня маюць права сумленна глядзець у вочы людзям, а на пытаньні сваіх дзяцей заўтра шчыра адкажуць: "Я рабіў памылкі, часам мне было страшна, але я змагаўся з рэжымам!"

Усе, хто ня хоча быць рабом у сваёй краіне, хто хоча жыць годна і не хлусіць сабе і дзецям, можа зрабіць тое самае. Гэта цяжка. Трэба проста стаць побач. І мы пераможам.



**ЛЯ ГАЗЕТНАГА КІЁСКА**

— Дзяўчына, мне, калі ласка, «Савецкую Беларусь».
— Няма такой.
— Тады «Рэспубліку».
— А яе даўно прадалі.

## Ірына Халіп:

# "Моладзь яшчэ скажа сваё слова..."

Гутарка з галоўным рэдактарам беларускай незалежнай газэты "Імя"

Дакументальны кінафільм "Страх", што апавядае пра апошнія падзеі і жыцьцё сёньня на радзіме, беларусы у Амэрыцы дзякуючы апаратыўнасьці менскіх сяброў убачылі раней, чымсьці ён быў афіцыйна паказаны на міжнародных кінафестывалях у Празе (1-шы прыз), Берліне, Нью-Йорку. Усіх нас асабліва ўсхваляваў і ўразіў эпізод, зазняты адразу ж пасьля таго, як лукашэнкаўскія ахоўнікі парадку жорстка пабілі кінасцэнарыста і публіцыста Уладзіміра Халіпа і яго дачку Ірыну, галоўнага рэдактара газэты "Імя". Віна іх была толькі ў тым, што яны стаялі на вуліцы і глядзелі, як спакойна разыходзіліся людзі пасьля дэманстрацыі... Закрыўшы вочы рукамі, ледзьве стрымліваючы рыданьні, Ірына расказвала, як накінуліся на яе бацьку, як звалілі яго і пачалі біці спачатку нагамі, а потым дубінкамі, як яна крычала: "Ня бейце тату!", як схапілі яе за валасы і правалаклі скрозь строй міліцыі, і кожны мог біці яе дубінкамі і нагамі, як іх засунулі ў "варанок" і як білі аб жалезную падлогу машыны... А што было потым, яна не памятае - у цяжкім стане іх адвезлі у шпіталь. Усе гэта сёньня на Беларусі адбываецца без пакараньня: крымінальную справу па фактах перавышэньня паўнамоцтваў супрацоўнікамі міліцыі закрылі “праз адсутнасьць складу злачынства”.

Вядома, спецназаўцы ведалі, каго яны б’юць, ведалі, пра што і як піша маладая таленавітая журналістка. Такія напады на людзей сёньня нярэдкія ў Менску, Ірыну Халіп і яе бацьку ўжо збівалі двойчы.

Як і многія менчукі, я добра ведаю гэту сям”ю. Бабуля Ірыны, Марына Бяльзацкая, народная артыстка Беларусі, доўгія гады была мастацкім кіраўніком вядомага ня толькі ў Беларусі дзіцячага танцавальнага ансамблю “Равеснік”. Уладзімір Халіп – аўтар цікавых дасьледваньняў па гісторыі тэатру і кінематографу, лібрэтыст і сцэнарыст, які да самага апошняга часу працаваў галоўным рэдактарам кінастудыі “Беларусьфільм”. Ды і сама Ірына сёньня – адна з нямногіх у рэспубліцы прынцыповых і бясстрашных журналістаў. Нягледзячы на яе маладосьць, калектыў газэты “Імя” менавіта яе нядаўна абраў галоўным рэдактарам.

Мы сустрэліся з Ірынай Халіп на другі дзень пасьля яе прыезду ў Чыкага.

**– Раскажыце, калі ласка, з якой нагоды вы прыехалі ў Амэрыку.**

– Я прыехала на цікавейшы трохтыднёвы семінар, які арганізаваны Інфармацыйным Агенцтвам Злучаных Штатаў (USIA). Назоў семінару – “Друкаваная журналістыка ў Злучаных Штатах”, мэта яго – азнаямленьне з практыкай і метадамі працы амэрыканскіх газэтаў. Разам са мной сюды былі запрошаны галоўныя рэдактары нямногіх незалежных беларускіх газэтаў: Уладзімір Базан (“Віцебскі кур’ер”), Мікалай Аляксандраў (“Брэсцкі кур’ер”, дарэчы, вельмі цікавая газэта, адна з нямногіх, што даюць даход рэдакцыі), рэдактары дзвюх газэтаў з Магілёва – Генадзь Суднік (“Тыдзень Магілёўскі”) і Марына Ірхо, рэдактар новай газэты, што выходзіць там тры разы на тыдзень, а таксама рэдактары незалежных газэтаў з нашых невялікіх гарадоў – ВіктарВаладашчук (“Слонімская газэта”) і Анатоль Букас (“Барысаўскія навіны”).

Да Чыкага мы правялі тыдзень у Вашынгтоне. Былі цікавыя сустрэчы і размовы ў Міжнароднай асацыяцыі журналістаў, Асацыяцыі газэтных рэдактараў, у Дзярждэпартаменце, у Савеце нацыянальнай бяспекі. Мы сустракаліся з памочнікам Прэзідэнта ЗША Карласам Паскуале. Цікавасьць да нас адчувалася вялікая, мы падрабязна адказвалі на многія запытаньні пра сучаснае жыцьцё на Беларусі. Але з прафесійнага пункту гледжаньня нашы амэрыканскія калегі часта нас не разумелі, мы гаварылі нібыта на розных мовах. Бо мы працуем у розных умовах і ў розных вымярэньнях. Амерыканскай дэмакратыі больш за 200 гадоў, а нашай, даруйце, нуль. У нас не існуе такога паняцьця, як 1-ая папраўка да Канстытуцыі. Калегі так і не змаглі адказаць, напрыклад, на пытаньне, за што ў Амерыцы могуць закрыць газэту.

**– А ці была ў вас магчымасьць выказаць свой погляд, расказаць падрабязна пра сёньняшнюю сітуацыю ў Беларусі?**

– Вядома, прычым ня толькі мы распавядалі, але і ў нас шмат пыталіся пра ўсё. Усе, з кім мы сустракаліся, актыўна цікавіліся тым, што ў нас адбываецца. Нам здалося, што і ў Дзярдэпартаменце, і ў Савеце нацыянальнай бяспекі разумеюць, хто такі прэзыдэнт Лукашэнка, што ён сабой уяўляе. На гэтых сустрэчах ў нас нават пыталіся пра тое, якая, на наш погляд, павінна быць далейшая палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі.

**– І што вы на гэта адказалі?**

– Яна перш за ўсё павінна быць вельмі прынцыповай і пасьлядоўнай. Яна была заўсёды такой, пачынаючы ад непрызнаньня рэферэндуму 1996 году ў Беларусі. Ад’езд пасла быў таксама правільным крокам. Пасьля скандалу з рэзідэнцыямі ў Драздах паслы многіх краінаў ужо вярнуліся, знайшлі сабе іншыя дамы і кватэры, прычым нічога абсалютна не атрымаўшы у якасьці абяцанай кампенсацыі. А пасол ЗША дагэтуль не вярнуўся, і гэта правільна. Мне здаецца, што ЗША цяпер павінны заняць яшчэ больш цвёрдую пазіцыю, якая асуджае гэты рэжым, да таго ж нядаўна закончыліся законныя паўнамоцтвы прэзідэнта Лукашэнкі. ЗША – адзіная краіна, якая можа паставіць яго на месца, бо ён прызнае толькі размову з пазіцыі сілы, з ім нельга дамовіцца, яму можна толькі загадаць. Вось так, з пазіцыі загаду з ім яшчэ ніхто па-сапраўднаму не размаўляў.

**– Дык хто ж ён: камуніст, фашыст ці проста самадур-дыктатар?**

– Мне здаецца, у цяперашнім беларускім рэжыме ёсьць, вядома, рысы нямецкага фашызму, савецкага таталітарызму і, магчыма, нешта часткова ад лаціна-амерыканскіх дыктатур. Бясследна знікаюць людзі, як Віньнікава або Захарэнка, - такога нідзе ж не было, толькі там, у краінах Лацінскай Амэрыкі. Да любога рэжыму можна ставіцца па-рознаму. Бываюць сітуацыі, калі народы прывыкаюць да жорсткага рэжыму: ён у традыцыі, яны ня супраць яго. Але беларусы да гэтага зусім не падрыхтаваныя. Гэта народ спакойны, адкрыты, мяккі, дабрасуседскі, цярплівы. У яго зусім не прыстасаваная для дыктатуры ментальнасьць. Таму ўсё гэта пераносіцца сёньня так цяжка. З іншага боку, і народ можна папракнуць: ён згадзіўся, ён гэты рэжым абраў. Праўда, зусім не прадбачачы, якім будзе Лукашэнка. Такая пячорная дыктатура на Беларусі – гэта супроць гістарычных традыцыяў, супроць самога народу перш за ўсё.

**– Ды і Еўропа побач...**

– Настолькі побач: да Варшавы бліжэй, чым да Масквы, а да Вільні з Менску – паўтары гадзіны на машыне. У Польшчы, Літве дэмакратычныя



пераўтварэньні прывялі да сур’ёзных эканамічных посьпехаў і да зусім іншага самаадчуваньня народу.

**– Але ж што будзе далей? Колькі яшчэ будзе кіраваць уладай Лукашэнка? Многія агілядальнікі лічаць, што і сёньня яго падтрымлівае большасьць насельніцтва. І ён сам пра гэта неаднаразова заяўляў напярэдадні 20 ліпеня – дня, калі закончыліся яго паўнамоцтвы згодна Канстытуцыі 1994 году.**

– Не, гэта ня так. Яго падтрымлівае ўжо ня большасьць, як раней. У Менску яго ненавідзяць амаль аднадушна. Калі б выбары праводзіліся, напрыклад, зараз у Менску, ён пацярпеў бы моцную паразу, атрымаў бы, ну, два працэнты галасоў. Але ён яшчэ карыстаецца падтрымкай таго слою насельніцтва, які ў Расіі называюць “чырвоным поясам”. Свой “чырвоны пояс” ёсьць і ў Беларусі. Падтрымлівае Лукашэнку, у асноўным, правінцыя. Там меней інтэлігенцыі, там мацнейшая мясцовая ўлада, падобная на савецкую ўладу, ад якой многія залежаць і якую проста ўсе баяцца. Усе кіраўнікі мясцовых выканкомаў прызначаюцца асабіста прэзідэнтам.

**– А хіба не ўплывае зніжэньне узроўню жыцьця на палітычную сьвядомасьць людзей?**

– Вядома, уплывае. Але інэрцыю яшчэ цяжка пераламіць дзякуючы выключнай цярплівасьці беларускага народу. Людзі па тры гадзіны стаяць у чэргах па яйкі і кажуць, што ў нас яшчэ ня так кепска, у Расіі вунь галодныя шахцёры на рэйках сядзяць, не атрымліваюць месяцамі зарплаты, настаўнікам выдаюць зарплату калёшамі і грабамі… А ў нас… Невядома, да якой жа ступені цярпеньня трэба давесьці гэты народ, каб ён мог стаць відушчым на ўсе сто працэнтаў. Адзін з апанентаў Лукашэнкі, дарэчы, лідэр нашай камуністычнай партыі Сяргей Калякін, трапна сказаў: “Галоўны яго вораг – эканоміка, і гэтага ворага ён не пераможа”.

**– А як народ ставіцца да ідэі аб’яднаньня з Расіяй?**

– Вось гэты “рэвалюцыйны чырвоны пояс” і лічыць, што як толькі будзе падпісана паперка аб аб’яднаньні, зарплату стануць плаціць у час і паўнаважкімі расейскімі рублямі. Не разумеючы, што Расія ня будзе укладваць сродкі ў непрадказальную краіну з непрадказальным кіраўніцтвам. Ня будзе такога, як напрыклад, ва Ўсходняй Нямеччыне, куды Заходняя Нямеччына ўкладвае зараз вялікія грошы, каб падняць яе ўзровень, хоць нават там, у адзінай краіне, існуюць свае складаныя праблемы. Пакуль, мне здаецца, ідзе нейкая гульня ў аб’яднаньне, у якой партнёры добра ведаюць, чаго хочуць. Лукашэнка разумее, што пры аб’яднаньні ўжо ня будзе размовы пра яго нелегітымнасьць, ён рвецца заняць якую-небудзь важную пасаду у расійскім маштабе, не вечна ж ён будзе беларускім прэзідэнтам. Ельцын таксама разумее, што ў Расіі ён ня можа быць абраны зноў, станавіцца пенсіянерам вельмі ня хочацца, а Саюз – гэта ўжо новая форма, дзе для яго можна знайсьці якое-небудзь ганаровае месца.

**– Ці адчувальнае ў гэтай гульні ўзмацненьне ціску на Беларусь менавіта расійскай вялікадзяржаўнасьці, якая прыціхла была ў перыяд уздыму дэмакратычнага руху ў Расіі?**

– Я лічу, што вялікадзяржаўнасьць там нікуды не зьнікала, яна была заўсёды. Яна, на жаль, уласьцівая многім – і правым і левым групам. Імперскія амбіцыі – зусім нармальная для Расіі зьява. Зірніце, якімі патрыётамі адразу ж сталі і “дэмросы”, і “яблычнікі”, калі пачаўся канфлікт у Югаславіі. Мы пачулі крыкі “Гэй, славяне!”, “Мы павінны дапамагчы нашым малодшым братам!”, пачулі заклікі ажыцьцявіць нейкую вялікую місію Расіі і іншыя.

**– А што новага ў духоўным жыцьці рэспублікі? І ці ёсьць яна наогул?**

-- Дзеячы беларускай культуры сядзяць ціха, як мышы ў падпечку. Час ад часу іх прымушаюць падпісваць усемагчымыя звароты тыпу "дзякуй, дарагі таварыш прэзідэнт". Яны пакорліва падпісваюць, інакш іх звольняць з працы, і яны нікому ня будуць патрэбныя. Да таго ж дух, які пануе ў гэтай краіне, усё, што там адбываецца, як мне здаецца, не даюць магчымасьці і ствараць, й ўспрыймаць нармальна нейкія падзеі ў мастацтве, расслабіцца ў тэатры ці на канцэрце. Нехта з мастакоў, напрыклад, афармляе дачы багатых людзей, а вось славуты Эдуард Ханок напісаў песьню "Таварыш прэзідэнт".

**-- Ці можа што-небудзь змяніць сёньня на Беларусі палітычная апазіцыя? Якія вашыя прагнозы?**

-- Беларуская апазіцыя сёньня, на жаль, вельмі слабая. Яна ніяк не можаператварыцца ў нейкую рэальную сілу, у асобную адзіную партыю альбо аб'яднаньне, На жаль, у кіраўніцтве апазіцыйных групаў ідзе грызьня, высьвятленьне адносінаў, спрэчкі, напрыклад, хто галоўнейшы: Беларускі народны фронт ці Аб'яднаная грамадзянская партыя. І гэта перашкаджае выступіць адзіным фронтам. Сёньня тысячы людзей выходзяць на дэманстрацыі і акцыі пратэсту зусім ня думаючы, да якой партыі яны належаць.

Але ў Беларусі расьце моладзь. Зьявілася вельмі многа маладых людзей, якія думаюць, якія сарыентаваны нацыянальна і сацыяльна правільна. Гэта ўжо новае пакаленьне. Яно болей патрыятычна настроенае, чым папярэднія пакаленьні. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты добра ведаюць беларускую мову, любяць беларускую гісторыю, духоўнасьць, культуру. Яны актыўна ўдзельнічаюць у акцыях пратэсту, падтрымліваюць апазіцыю, іх, здараецца, выганяюць з інстытутаў, але яны нікога і нічога не баяцца. Студэнства – барометр рэвалюцыі, так прынята лічыць. Гэта тая моладзь, якая вырасла не ў таталітарных умовах, а пасьля таго перыяду, у яе няма страху, яна пазбаўленая многіх комплексаў таго жахлівага часу. За гэтай мoладдзю – будучае.

Да 2001 году наўрад ці нешта адбудзецца. Будуць цягнуць час, прывыкаць да дыялёгу, потым весьці усемагчымыя перамовы… А вось потым, на новых выбарах, я ўпэўнена, моладзь скажа сваё вырашальнае слова. Хоць ад нашага прэзідэнта, ведаючы ягоны характар, усяго можна чакаць: ён можа наогул адмяніць усялякія выбары і абвясьціць сябе пажыццёвым дыктатарам, І гэтага выключыць нельга. Тады, напэўна, настане час для сусьветнага супольніцтва больш рашуча ўмяшацца ва ўнутраныя справы Беларусі.

**-- Ірына, раскажыце, калі ласка, што асабіста з вамі адбылося ў самы апошні час?**

-- Мы нядаўна надрукавалі артыкул пра арышт аднаго нашага бізнесмэна, дзе гаварылася, што генпракурор так і не падпісаў загад на гэты яго арышт. І вось, па ініцыятыве генеральнага пракурора Беларусі Алега Бажэлкі ўзбуджаецца крымінальная справа па факце паклёпу на яго персанальна. Атрымліваецца, што ён сам прызнаў, што на яго ўзвялі паклёп, сам распачаў справу, і цяпер яго падначаленыя вядуць следства. Літаральна за два дні да майго ад'езду былі вобыскі ў нас у рэдакцыі, у маёй машыне і ў мяне на кватэры. Прыйшлі шэсьць чалавек у цывільным, з імі – міліцыянер, які бразгаў наручнікамі, відаць, каб страшней было. Пры вобыску канфіскавалі кампютэрныя сістэмныя блокі, дыскеткі, аудыёкасеты, розныя паперы, запісы. Я сёньня званіла ў рэдакцыю, мне сказалі, што ўжо дапрасілі ўсіх супрацоўнікаў. Так што справа ў разгары. А я пакуль што праходжу па гэтай справе ў якасьці сьведкі, таму, напэўна, мяне і выпусьцілі ў Амэрыку.

**-- Як пачувае сябе тата?**

-- Ён не працуе, у яго вельмі часта моцна баліць галава. Ён прайшоў поўнае медыцынскае абследаваньне, і яму сказалі, што гэта назаўсёды, што адбыліся непапраўныя зьмены. Калі ў такім узросьце атрымліваеш удары кіем па галаве, самі разумееце…

**-- Я часта прыгадваю нашы сустрэчы ў вас у доме на Першамайскай, калі вы былі яшчэ зусім маленькай, нашых агульных з вашым татам сяброў, маё няштатнае супрацоўніцтва з Валодзем на "Беларусьфільме"… Перадайце яму вялікае прывітаньне і самыя найлепшыя пажаданьні. А вам – далейшых посьпехаў, мужнасьці, стойкасьці, што б ні чакала вас там, на радзіме.**

-- Дзякуй!

Гутарку вёў **Ванкарэм Нікіфаровіч,** Чыкага, ЗША.

## „Рацыя" пачне вяшчаць навосень

У пачатку гэтага месяца Юліуш Браўн, старшыня Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання, падпісаў канцэсію для радыёстанцыі „Рацыя", якая будзе вяшчаць беларускамоўныя перадачы на звышкароткіх (105,5 MHz; Беласток, наваколле) і кароткіх хвалях (61,75; 61,65; 60,35 kHz; астатняя частка свету).

Радыё „Рацыя" мае быць культурна-інфармацыйнай радыёстанцыяй пад кіраўніцтвам суполкі з такою ж назвай. Пераважны ўдзел у гэтай суполцы мае Беларускі саюз у Польшчы.

Закон уводзіць абавязак выпусціць у эфір першыя перадачы на працягу трох месяцаў ад падпісання канцэсіі, у сувязі з чым на тэхнічна-арганізацыйныя питанні радыё мае часда лістапада. У яго ж пачатку мы ўжо павінны пачуць беларускае „Добры дзень, дарагія слухачы..."

— Кожная нацыянальная меншасць імкнецца пашыраць роднае слова, — кажа Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза, — але дабіцца свайго радыё ў Польшчы ўдалося пакуль толькі беларусам. Прашэнне аб канцэсіі было складзена ў Краёвую раду ў пачатку гэтага года. З таго моманту вакол радыё вырасла многа міфаў, стварала іх таксама прэса, прыдаючы нашай ініцыятыве выключна палітычны падтэкст, што не з'яўлялася праўдай.

Тое, што польская прэса ва ўсёй ініцыятыве ўгледзела толькі адну акалічнасць — „Рацыя" на кароткіх хвалях дасягне сталіцу Беларусі — ды зрабіла з гэтага „вялікую справу" не з'яўляецца ані нечаканасцю, ані недаравальнасцю. Абсалютным аднак кур'ёзам у гэтай справе з'яўляецца факт, што супраць беларускага радыё на старонках гэтай жа прэсы выступілі беларускія інтэлектуалы Сакрат Яновіч і Лявон Тарасэвіч.

**Аляксандр МАКСІМЮК**

«НІВА»

# ЗВАРОТ
## ДА ЎРАДУ І ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ, МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ

Паважаныя члены Урада Рэспублікі Беларусь!

20 ліпеня 1999 года скончыўся тэрмін паўнамоцтваў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. У сувязі з гэтым Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, як таго і патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прызначыў у свой час чарговыя выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія адбыліся 16 мая 1999 года. Аднак А.Лукашэнка не толькі не скарыстаўся магчымасцю, каб прыняць удзел у выбарах і пераабрацца на новы тэрмін прэзідэнцтва (калі б гэтага пажадалі выбаршчыкі), але фактычна заблакаваў правядзенне ўказаных выбараў і з дапамогай злачынных метадаў (памяшчэнне ў турму і недазвол вяртання на Радзіму) не даў магчымасці правесці перадвыбарчую кампанію іншым кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь (Міхаілу Мікалаевічу Чыгіру і Зянону Станіслававічу Пазняку).

Час ішоў... 15 ліпеня 1999 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь звярнуўся да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі і выказаў неабходнасць і сваю гатоўнасць неадкладна пачаць перамовы паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам аб парадку пераадолення канстытуцыйнага крызісу. На жаль, адказу ад Прэзідэнта не паступіла.

21 ліпеня 1999 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зноў сабраўся на сваё пасяджэнне і прыняў зварот да беларускага народа і міжнароднай супольнасці, у якім, апроч іншых канкрэтных патрабаванняў, выказаў свае станоўчыя адносіны да прапаноў і ініцыятыў цяпер ужо міжнародных арганізацый аб пачатку перамоўнага працэсу ў Беларусі з мэтай правядзення свабодных, справядлівых прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі і прынцыпамі.

З таго часу прайшло ўжо больш месяца. Але і на гэты раз замест крокаў добрай волі, без чаго немагчымы канструктыўныя перамовы, з боку Лукашэнкі зроблены новыя злачынствы супраць прадстаўнікоў апазіцыі: яшчэ на два месяцы працягнуты тэрмін знаходжання ў турме Міхаіла Чыгіра, пачаўся бессаромны судовы працэс над дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Андрэем Клімавым, якога, дарэчы, арыштавалі з парушэннем заканадаўства Рэспублікі Беларусь, быў пасаджаны ў турму дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Валеры Шчукін, не прадпрымаецца ніякіх канкрэтных захадаў да пошуку зніклых пры невядомых абставінах былога старшыні Нацыянальнага банку Тамары Віньнікавай і экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі і г.д. Захоўваецца манаполія прэзідэнцкіх структур на сродкі масавай інфармацыі, якія выкарыстоўваюцца для хлусні і новых паклёпаў на лідэраў апазіцыі.

Усё гэта ставіць пад сумненне шчырасьць намераў А.Лукашэнкі і створанага ім рэжыму, сапраўды ісці на канструктыўныя перамовы з Вярхоўным Саветам і іншымі прадстаўнікамі апазіцыі гэтаму рэжыму. Лукашэнка і яго паплечнікі хутчэй за ўсё імкнуцца выкарыстаць перамовы толькі дзеля адной мэты -- легітымізаваць дзяржаўны пераварот 1996 года і створаны пасля яго рэжым. Больш таго, сам А. Лукашэнка працягвае свае намаганні па аб"яднанню Рэспублікі Беларусь і Расійскай Фэдэрацыі ў адну дзяржаву, прэзідэнтам якой ён усё яшчэ марыць стаць.

Усведамляючы гэта і сваю асабістую адказнасць за лёс Радзімы, я, як Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (а апошні застаўся цяпер адзіным у краіне законна абраным народам дзяржаўным органам, які адказвае за захаванне прынцыпаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), зрабіў заяву аб тым, што пасля 20 ліпеня 1999 года ўсе падпісаныя А. Лукашэнкам дзяржаўныя дзелавыя паперы ня маюць сілы.

Адначасова хачу звярнуцца да ўсіх членаў Ураду Рэспублікі Беларусь і кожнага асабіста -- адумайцеся, пакуль не позна! З 21 ліпеня 1999 года ўсе дзяржаўныя дзеячы, пачынаючы ад Старшыні Савета Міністраў, кіраўніка адміністрацыі Прэзідэнта і канчаючы больш нізкімі чыноўнікамі, сталі такімі ж нелегітымнымі, як і сам Лукашэнка як прэзідэнт, які прызначыў іх на пасады.

Разам з тым, я звяртаюся асабіста да тых, хто зразумеў і адчуў усю адказнасць перад сваім народам і Радзімай і хацеў бы ўдзельнічаць ва ўмацаванні незалежнай дэмакратычнай Беларусі, перабудове яе эканомікі і грамадскага жыцця на новы лад, калі ласка, і я, і кіраўніцтва Вярхоўнага Савета гатовы весці з вамі перамовы на гэты конт.

Я яшчэ раз заклікаю работнікаў пракуратуры, судоў, сілавых ведамстваў устрымацца ад выканання антыканстытуцыйных, злачынных загадаў цяпер ужо антызаконных выканаўчых уладаў, ад прымянення сілы да тых, хто ў адпаведнасці з законамі будзе ўстанаўліваць у краіне канстытуцыйны парадак і вяртаць яе на дэмакратычны шлях, па якім яна развівалася да дзяржаўнага перавароту, здзейсненага Лукашэнкам і яго паплечнікамі ў лістападзе 1996 года.

Я звяртаюся таксама да рабочых, сялян, інтэлігенцыі, усіх грамадзян Беларусі, прадстаўнікоў палітычных і грамадскіх арганізацый, рэлігійных канфесій з заклікам аб'яднаць свае намаганні і зрабіць усё дзеля таго, каб Рэспубліка Беларусь стала для ўсіх нас незалежным, родным і багатым домам і заняла ў еўрапейскай сям'і дзяржаў сваё пачэснае месца!

Кожны грамадзянін дзяржавы павінен мець права працаваць і зарабляць столькі, каб ён сам і яго сям'я маглі жыць у дастатку. Кожны пенсіянер мае права на забяспечаную старасць. Кожны малады чалавек павінен з дапамогаю дзяржавы атрымаць сабе абраную ім самім спецыяльнасць. Кожная маладая сям'я павінна мець права атрымліваць ільготны крэдыт на пабудову жылля і набыццё маёмасці ў прыватную ўласнасць. Дзяржава абавязана забяспечыць кожнаму грамадзяніну, незалежна ад яго нацыянальнасці і веравызнання, умовы для яго мірнай стваральнай працы, развіцця асобы, абарону яго правоў і свабод, а таксама яго ўласнасці.

Я звяртаюся і да кіраўнікоў міжнародных арганізацый, усіх дэмакратычных дзяржаў, іх парламентаў і ўрадаў з заклікам зрабіць усё ад вас залежнае, каб прыпыніць развіццё ў самым цэнтры Еўропы новага дыктатарскага рэжыму (лукашызму), які паставіў сваёй мэтай аднаўленне савецкай імперыі з яе парадкамі казарменнага сацыялізму.

Удзячны беларускі народ адкажа на гэта сваім актыўным удзелам у пабудове на дэмакратычных пачатках нашага агульнага еўрапейскага дому. Няхай жыве незалежная, вольная, дэмакратычная Беларусь!

Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь
Сямён Шарэцкі
23 жніўня 1999 года

## цікава...

Як паведамляе "Газэта Слонімская", на Гарадзеншчыне лік вернікаў узрастае і мацнее. Сярод 435 рэлігійных прыходаў большасьць /399/ — гэта прыходы хрысьціянскія; у тым ліку 169 каталіцкіх, 168 праваслаўных і 75 пратэстанцкіх. Патрэбы вернікаў задавальняюць 160 праваслаўных сьвятароў, 127 ксяндзоў і 92 прасьвітараў. У вобласьці знаходзіцца 6-ць манастыроў і 2-ве духоўныя сэмінарыі... Бяда, аднак, у тым, што амаль усе прыходы падпараткаваныя чужым інтарэсам, мінаючы беларускія рэлігійныя і нацыянальныя патрэбы...

# “Пакуль жыве мова — жыве Беларусь!”

Словы, вынесеныя ў загаловак, узяў у двукоссе не выпадкова. Яны належаць не мне, а слыннаму сыну Бацькаўшчыны Янку Купалу. Я ж скажу наступнае.

Мы, беларусы, маем багатае сваё асобнае пісьменства. Беларускае пісьменства, літаратура старэйшыя за польскія і расійскія. З усіх славянскіх народаў адны толькі чэхі мелі раней за беларусаў надрукаваную Біблію на сваёй мове. Чэшская Біблія была надрукавана ў 1488 годзе, беларуская — у 1517-м, украінская — у 1555-м, польская — у 1561-м, літоўская — у 1660-м, маскоўская (руская) — у 1751 годзе.

У XVI стагоддзі былі напісаныя і надрукаваныя на беларускай мове ўсе законы, духоўныя кнігі, гістарычныя, навуковыя і іншыя. Але пасля наш народ заняпаў, яго задушылі, зацiснулі, пры гэтым і пісьменнасць заглушылі. Калі наша Бацькаўшчына падпала пад Расію, дык нават зусім было забаронена што-небудзь пісаць і друкаваць па-беларуску. Толькі ў 1905 годзе, падчас першай рускай рэвалюцыі, беларусы дамагліся права друкаваць кнігі на сваёй мове. За кароткі час (ад 1905 г.) беларускія пісьменнікі напісалі шмат добрых і цікавых кніжак, стварылі новую беларускую літаратуру. Ужо ў 1906 годзе браты Луцкевічы (Іван і Антон) заснавалі першую легальную беларускую газету “Наша Доля”, потым — газету “Наша Ніва”, якая стала трыбунай беларускіх патрыётаў.

Калі б мы нашу родную мову закінулі, забыліся пра яе, а прынялі чужую, тады і след нашай загінуў бы на зямлі, бо пазнаюць людзі людзей не толькі па абліччу ці па вопратцы, якую хто носіць, а і па мове, якая ёсць таксама аблічча і вопратка душы чалавечай.

Тыя беларусы, што стараюцца гаварыць чужой мовай, пагарджаючы сваёй, бываюць або шэльмамі-душапрадаўцамі, або проста людзьмі цёмнымі, якіх аблыталі ворагі нашага народа. Першыя не гавораць па-беларуску дзеля сваёй асабістай карысці, бо пайшлі ў наймiты да чужынцаў і працуюць зусім свядома на шкоду беларускаму народу, каб яго загубіць. Другія не гавораць праз цемнату сваю, бо паверылі нашым ворагам, што мова наша “брыдкая”, “мужыцкая”, і за рознымі нашымі зламыснікамі ідуць, як авечкі, на бойню. Абавязак кожнага свядомага беларуса з першымі — ворагамі — змагацца, а другіх — цёмных — пераконваць, паказваючы ім праўду і навучаючы гісторыі нашай ды шырачы беларускае друкаванае слова.

**Падрыхтаваў**
**Алесь ШУСТОЎСКІ,**
**жыхар г.Барысава.**

ЦЯРПЛІВА ЧАКАЕМ НА
**Далейшыя ахвяраваньні на**
**Беларускі Музэй у Гайнаўцы,**
**Беласточчына...**

Прадаўжэньне Л І С Т Ы ахвярадаўцаў у наступным № нашае газэты...

Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Прускі.

Калі Вы, паважаны чытач, з нейкіх прычын, не змаглі пераслаць Вашую ахвяру дасюль, зрабіце гэта цяпер. Акцыя збору ахвяраваньняў даходзіць да канца. Чакаем на водгукі... Дзякуем за ўвагу!



# Ці не пара адмяніць прыгоннае права?

Цяжка не заўважыць, што кожны год, як толькі надыходзіць вясна, у нашай рэспубліцы пачынаецца грандыёзная “бітва за ўраджай”. Трыльёны рублёў з дзяржаўных банкаў пераліваюцца ў дзіравыя кішэні калгасаў і саўгасаў, не разбіраючыся, ці дадуць яны прыбытак, ці закапаюць іх у зямлю.

Тэрмінова пачынаюць стварацца штабы па кіраўніцтву “бітвай”. У раённых выканкамах з кіраўнікоў аддзелаў назначаюцца ўпаўнаважаныя для персанальнай адказнасці за розныя сельгасработы, за даенне, за кармленне, за рамонт тэхнікі, за пасяўную і г.д. І гэтыя ўпаўнаважаныя, праклінаючы лёс, устаюць апоўначы і едуць у калгасы і саўгасы, каб пастаяць над душой даяркі на ферме або механізатара на машынным двары. Дапамагчы яны, канешне, нічым не змогуць. Хіба толькі падкажуць кіраўніку гаспадаркі, што трэба пабяліць сцены на ферме ці падмесці пясок на мехдвары. На што могуць атрымаць заслужаны адказ: “Не лезь не ў сваю справу! Я сам ведаю, калі і што мне рабіць. А калі жадаеш дапамагчы, дык дапамажы здабыць вакуумны насос або каленвал для трактара”. А што ў такіх пытаннях можа зрабіць загадчыца аддзела культуры або начальнік Дзяржстраху? Смешна? Як каму.

Пачынаецца лета — пачынаецца пара рабства. Рабства — без усялякіх двукоссяў. Трэба збіраць камяні на палетках, палоць буракі, касіць і сушыць сена, уздымаць лён. А працаваць у гаспадарках няма каму. Бо хто ж будзе працаваць за капейкі? І сяляне шчыруюць на сваіх сотках, справядліва лічачы, што яны не дадуць зімой галадаць, а па калгасных заробках зубамі пляскаеш. І вось, доўга не думаючы, урад ідзе па звыклай з часоў камунізму сцежцы. Падымаецца лямант: “Неспрыяльнае надвор’е! Трэба ратаваць ураджай! Закрываем усе ўстановы — і на вёску!”. І тысячы ні ў чым не павінных РАБОЎ, нядобрым словам памінаючы ўсіх кіраўнікоў — ад непасрэднага начальніка да прэзідэнта, — едуць адпрацоўваць баршчыну, устаноўленую райвыканкамам для кожнай арганізацыі. А паспрабуй не паедзь — можаш аказацца беспрацоўным. Мала што наша дзяржава лічыцца прававой. Мясцовыя ўлады больш прававыя! Бо нават прадстаўнік кіруючай “вертыкалі” на пытанне: “Якое права вы маеце прымушаць мяне працаваць там, дзе я не хачу і не магу?” адказаў коратка: “Вы ведаеце, што такое сталіншчына?!”.

Вось і вымушаны ехаць, нягледзячы на тое, што гэта — прамое парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзян, заканадаўства аб працы. Нягледзячы на тое, што не ў кожнага адпаведнае здароўе — каго гэта хвалюе? Нягледзячы на тое, што сваю асноўную работу прыйдзецца рабіць вечарам, калі нармальны чалавек павінен адпачываць. А ў многіх жа яшчэ ёсць і свой кавалачак зямлі з градкамі, які патрэбна дагледзець, бо вырасце ў калгасе што ці не, а карміцца прыйдзецца тым, што сам вырасціў. А за тое, што будзеш гнуць спіну на “суботніку”, прамую выгаду атрымаюць прадстаўнікі ўлады: хто прэмію, хто павышэнне... І тэрмін — “харчовая бяспека” — відаць, імі прыдуманы, каб прыкрыць сваю нядзатнасць да ўмелага кіраўніцтва гаспадаркай.

Аднак колькі ж можна прыкрывацца размовамі пра “неспрыяльнае надвор’е”, якое ў нас кожны год неспрыяльнае? Чаму ў асабістых гаспадарках, дзе чалавек працуе на сябе, ніколі не бывае неспрыяльнага надвор’я? Дзе кожны год ёсць запасы і для сябе, і для жывёлы. А калі гэтага не атрымліваецца, дбайны гаспадар рэарганізуе сваю гаспадарку. Дык, можа, прыйшоў час і ў краіне рабіць рэарганізацыю сельскай гаспадаркі? Каб не прыходзілася, парушаючы закон, на лета ўводзіць прыгоннае права, прымушаючы ўрачоў, сувязістаў, настаўнікаў і іншых спецыялістаў, у якіх сваіх праблем дастаткова, палоць калгасныя буракі. Каб працаваць на зямлі было выгадна ў першую чаргу селяніну — чалавеку, які ўмее і хоча на ёй працаваць. А рабская праца не зробіць дзяржаву багатай, а толькі адцягне час банкруцтва. Калі ж наш урад не здольны правесці такую арганізацыю, навошта такі ўрад?

**Генадзь ВОЛКАЎ,**
**жыхар г.п.Расоны.**

# Даношваем тое, што не з’ела моль...

Скажаце, перабольшваю? Многія вяскоўцы майго ўзросту пацвердзяць тое. Здавалася, ужо ніколі не будзе таго, што ў маладую пару давялося пražыць ваенным ліхалеццем і ў першыя гады пасля. А вось выходзіць, усё вяртаецца.

Паслухаеш наша радыё, выступы Аляксандра Рыгоравіча, дык за галаву бярэшся. Колькі ж можна хлусіць, абяцаць, і на каго разлічана ўсё гэта? Аднаго, праўда, не адмаўляю: пенсію нам прыносяць рэгулярна. Ды што на яе можна прыдбаць, як пражыць? Трымаеш у руках стос паперак, а яны ж — пустыя. На нашы 3—4 пенсійныя мільёны толькі хлеб ды малако купіш, ну яшчэ крыху кармоў для жыўнасці. Вось і даводзіцца латаць старое адзенне, а хадзіць хутка будзем басанож. Праўда, летам ды яшчэ па расе — гэта на карысць здароўю.

Дык вось, Аляксандр Рыгоравіч, пры тваім прэзідэнцтве намнога пагоршала нам жыць. І надзеі на лепшае няма. Хоць да голаду і холаду, я ўжо гаварыла, нам не прывыкаць, але прывыкнуць да несправядлівасці, што ідзе зверху па “вертыкалі”, немагчыма. За слова праўды можна ў турму загрымець, ці не так? Вы і вашы памагатыя толькі тых церпіце, хто вам дагаджае, ліслівіць перад вамі. А разумных, гаспадарлівых людзей да кіраўніцтва не дапускаеце. Адкуль жа будзе лад у краіне? Вы ўсё запэўніваеце, што ў адной дзяржаве з Расіяй будзем песенькі спяваць, а ці не давядзецца плакаць? Там жа парадкі і справы не лепшыя за нашыя, па РТР і ГРТ такога нагледзеліся, што відавочна: аб’яднанне голага з босым нічога добрага не дасць. Навошта ж зноў дарэмна абнадзейваць людзей? Нават мне, не надта адукаванай вяскоўцы, зразумела, што ў невялікай дзяржаве, як зараз Беларусь, лягчэй зладзіць жыццё па-добраму, чым у бяскрайняй і ўзбаламучанай Расіі. Магу прывесці такі прыклад: неяк у нашым Лагойскім раёне вырашылі тры слабенькія калгасы аб’яднаць — маўляў, будзе добрая гаспадарка. Атрымалася ж на справе яшчэ горш, і мусіла раённае кіраўніцтва іх зноў раз’ядноўваць. А ў маштабах “ад Буга да Камчаткі” гэта ж будзе ўсяленская катастрофа...

Цяпер законны тэрмін вашага прэзідэнцтва заканчваецца, хоць вы і надбавілі сабе яшчэ два гады “на падставе” сумнавядомага рэферэндуму 1996 года. Скажу вам, тады многія людзі, і я ў тым ліку, галасавалі, не ведаючы за што, — як падказвала выбарчая камісія. Бо пытанні ў бюлетэнях былі, мяркую, назнарок пастаўлены заблытана, каб сходу не ўцяміць, што да чаго.

Віна за гэта і на нас, вашых выбаршчыках, што падтрымлівалі вас, не разабраўшыся. Цяпер пачынаем разбірацца. Нацешыліся ўжо вашым клопатам аб “простым народзе”, хопіць. Калі ў вас хопіць рашучасці пакінуць свой пост пасля 20 ліпеня, гэта будзе чэсны ўчынак, і людзі вас зразумеюць. Прыйдуць другія, каму дарагая Беларусь і хто не паўторыць вашых памылак.

...Вось напісала, аб чым крычыць душа, і падумала: можа, нашы стогны і нашы маленні пачуе Усемагутны Бог?

**Ніна ЗЯЛЁНКА,**
**пенсіянерка.**
**в.Задор’е Лагойскага раёна.**

## З АРХІЎНАГА КУФРА...



IV-я кляса Настаўніцкай Сэмінарыі ў Нясьвіжы, 3-VII-1943 г.




Каротка-тэрміновыя настаўніцкія курсы ў Нясьвіжы ў другой палове 1942 г.